ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 48 (2346)

2 снежня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.

ПАСЛЯ НАВЕДАННЯ НАВІНАК

## РКПБ ЯК ЛЮСТЭРКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Нешта нядобрае з намі робіцца. І справа ўжо, здаецца, не ў тым, што, як гавораць старыя ўсіх часоў і народаў, «раней і вада была макрэйшая, і трава — зялянейшая, і людзі — дабрэйшыя». Ёсць аб'ектыўныя крытэрыі здароўя грамадства, і яны сігналізуюць, што ў ім сёння далёка не ўсё ў парадку. Небывалая ўспышка жорсткасці ( да якой мы ўжо, дарэчы, прызвычаіліся), калі крымінальныя зводкі больш нагадваюць клінічныя дыягназы, чым паведамленні аб злачынствах, рост колькасці самагубстваў, дзяцей, што пайшлі з дому, бацькоў, якія гэтага нібы не заўважаюць... Пералічваць можна доўга, але ж не журналісцкая гэта справа — ставіць дыягназ нашаму стомленаму грамадству. І каб разабрацца, дзе тут уласцівыя людзям перабольшванні і скаргі на заўсёды нялёгкі час, а дзе сімптомы хваробы, я адправілася ў Рэспубліканскую клінічную псіхіятрычную бальніцу, больш вядомую ў народзе як проста Навінкі.

Маімі субяседніцамі былі кандыдат медыцынскіх навук, галоўны дзіцячы псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Наталля Грыгор'ева і загадчыца аднаго з аддзяленняў Эма Белан. Яны згадзіліся дапамагчы разабрацца ў гэтай праблеме і адказалі на мае пытанні.

Наўрад ці гэта зможа супакоіць ці парадаваць, але нічога фенаменальнага ці незвычайнага ў тым, што сёння адбываецца з нашым грамадствам, няма. Рэвалюцыі, войны, сацыяльныя ўзрушэнні заўсёды накладвалі адбітак на людзей, іх псіхіку. Усе мы зараз перажываем стрэс. Здаровы, дужы чалавек даволі лёгка можа яго перанесці, знайсці ў сабе сілы перамагчы сітуацыю. Але калі стрэс зацягваецца (а менавіта ў такім «рэжыме» сёння жывём усе мы), ён знясільвае самую моцную псіхіку, разбурае ахоўныя механізмы, разам з якімі знікаюць сілы змагацца і супрацьстаяць няўдачам, непрыемнасцям і бедам. Вынік — хранічная дэпрэсія, што ў сваю чаргу можа прывесці да змены асобы і ўзнікнення паталагічных рысаў характару. Нестабільнае палітычнае і сацыяльнае становішча спрацоўвае як дэтанатар, яно можа стымуляваць хваробу, прымусіць яе праявіцца раней ці ў больш цяжкай форме. Індыкатарам пераломных у жыцці грамадства момантаў становяцца так званыя «пагранічныя паталогіі», якія знаходзяцца ў прамой залежнасці ад стрэсаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ТАЛЕНТ, ПАМНОЖАНЫ НА ПРАЦАВІТАСЦЬ І ДАБРЫНЮ

## МІЛЫ ТАВАРЫШ МАКСІМА

ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, у якіх вельмі арганічна спалучаецца талент, абаяльнасць, дабрыня, высакароднасць. Звычайна пра такіх неардынарных асоб кажуць, што гэта ім дадзена «ад Бога»...

Менавіта такой была Леаніла Усцінаўна Чарняўская, беларуская пісьменніца, перакладчыца, педагог. Нарадзілася яна 16 лістапада 1893 года — 100 гадоў таму назад, у маляўнічым кутку Віцебшчыны — вёсцы Таргуны цяперашняга Докшыцкага раёна. У сям'і было шасцёра дзяцей. Бацькі арандавалі зямлю ў паноў, з чым былі звязаны і частыя пераезды. Нягледзячы на невялікі дастатак, яны імкнуліся даць дзецям адукацыю. Да таго ж маленькая Леаніла была здатнай да навукі. У дзевяцігадовым узросце яна на «выдатна» вытрымала ўступны экзамен у Вышэйшае марыінскае вучылішча ў Вільні, а пасля яго заканчэння выкладала ў Залескай школе Дзісенскага павета. Маладая настаўніца любіла свой занятак, шмат увагі ўдзяляла дзецям, чым і заваявала аўтарытэт. Неўзабаве яна была запрошана ў Першую віленскую беларускую гімназію, дзе працавала выкладчыцай у пачатковых класах. Лёс усміхаўся маладой дзяўчыне, абяцаў вялікую перспектыву. Як чалавек таленавіты і апантаны, Леаніла Чарняўская не абмяжоўвалася толькі заняткамі ў гімназіі. Яна спрабавала свае сілы ў мастацкай творчасці, выказала ініцыятыву падрыхтаваць чытанку для дзяцей. У 1919 годзе адбыўся яе творчы дэбют — было напісана першае апавяданне «Мікітка». Тады ж выйшлі падрыхтаваныя ёю зборнік «Дзіцячыя гульні», чытанка «Родны край», якая стала прычынай знаёмства Леанілы Чарняўскай з яе будучым мужам — Максімам Гарэцкім. Вядомы ўжо пісьменнік, выкладчык гімназіі, ён яшчэ да выхаду кнігі даведаўся, што рыхтуецца чытанка для дзяцей. Каб прапанаваць туды свае творы, Максім Гарэцкі сустрэўся з яе укладальніцай. Першае спатканне прадвызначыла іх далейшы лёс. Яны пакахалі адзін аднаго і 16 ліпеня 1919 года ўзялі шлюб. Сумесныя гады жыцця маладажонаў далі выдатны плён у творчай працы і сямейным жыцці. Нараджэнне дачкі Галі і сына Лёні яшчэ больш умацавала і ашчаслівіла іх адносіны.

Чытанка «Родны край» сёння стала бібліяграфічнай рэдкасцю. На вялікі жаль, цяпер, калі паўстаюць шматлікія праблемы з выданнем падобных беларускамоўных кніг, «Родны край» застаецца амаль недаступным. А ён жа змяшчае багаты гісторыка-літаратурны і эстэтычны матэрыял, напоўнены зместам высокага патрыятычнага гучання, дае магчымасць пазнаёміцца з творамі многіх пісьменнікаў, чые імёны да нядаўняга часу былі выкраслены з літаратурнага ўжытку, а самі аўтары сталі бязвіннымі ахвярамі таталітарнай сістэмы. Чытанка Леанілы Гарэцкай і сёння можа служыць цудоўным дапаможнікам як на ўроках літаратуры, так і на ўроках гісторыі, геаграфіі, музыкі, этыкі, эстэтыкі. Методыка падрыхтоўкі кнігі «Родны край» у многім можа быць выкарыстана прадаўжальнікамі справы нястомнай асветніцы, паслужыць штуршком для нараджэння новых, сучасных падыходаў.

(Заканчэнне на 7-й стар.).





Лідскі замак быў пабудаваны яшчэ ў XIV стагоддзі пры вялікім князі Гедыміне. Няўмольны час зрабіў сваё: поўнасцю разбураны вежы і ўнутраныя пабудовы крэпасці. Зберагліся толькі сцены і рэшткі вежаў.

У нашы дні было прынята рашэнне адрэстаўрыраваць гэты гістарычны помнік. Выканаць такую складаную задачу ўзялося малое прадпрыемства «Дызайн». Работы працягваюцца нават і ў моцныя маразы, якія рана прыйшлі на Беларусь.

НА ЗДЫМКАХ: Лідскі замак; дырэктар «Дызайна» рэзчык па дрэву Рычард ГРУША з маладым рэстаўратарам Аляксандрам БАШКЕВІЧАМ.

Фота А. ТАЛОЧКІ.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*РАШЭННЕ ЎРАДА*

## НА КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

Урад Беларусі прыняў рашэнне фінансаваць міждзяржаўную праграму даследаванняў і выкарыстання касмічнай прасторы, якую беларускія вучоныя і работнікі вытворчасці будуць выконваць разам з калегамі з іншых краін СНД.

Як паведаміў старшыня рэспубліканскага савета па космасу пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Беларусі Барыс Берагаў, гэта будзе далявы ўдзел у фінансаванні асобных работ, якія вядуцца ў беларускіх даследчых цэнтрах і на прадпрыемствах касмічнага профілю.

Работа па праграме не ўключае ў сябе заказы ваенных.

*ЗВАРОТ БЗВ*

## ВІЛЕНСКАЕ ПЫТАННЕ

«Мінула больш за 50 гадоў, як па злачыннай змове Сталіна і Гітлера наша старажытная сталіца Вільня была перададзена жамойтам, якім у канцы мінулага стагоддзя было прысвоена найменне «літоўцы». Страта Вільні — гэта горкі ўрок, прыклад таго, што бывае з народам, лёс якога вызначаюць чужынцы. Спачатку была растаптана наша гісторыя, потым украдзена імя, а затым і сталіца — наш гонар, наша Вільня, дзе кожны камень старога горада сведчыць аб славутай гісторыі Беларусі".

Такія словы прагучалі ў звароце да грамадскасці, прынятым на II з'ездзе Беларускага згуртавання вайскоўцаў, які адбыўся ў Мінску 20 лістапада. Зварот заклікае міжнародную супольнасць «звярнуць увагу на віленскае пытанне», бо сёння «беларусаў пазбаўляюць нават магчымасці свабодна наведаць сваю гістарычную сталіцу».

*БУДЗЬЦЕ СПРАВЯДЛІВЫМІ*

## ЗАКЛІК ВЯЗНЯЎ ФАШЫСЦКІХ КАНЦЛАГЕРАЎ

З прапановай прызнаць ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны былых палітычных зняволеных нацыянал-сацыялістычнага рэжыму (вязняў гітлераўскіх канцлагераў) звярнуліся да прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча актывісты рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне».

У іх звароце гаворыцца, што ў дакументах, прынятых Вярхоўным Саветам і ўрадам Беларусі да святкавання 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, не ўлічаны інтарэсы актыўных барацьбітоў супраць нацыянал-сацыялізму. Да іх, як вядома, адносяцца палітычныя вязні Асвенціма, Майданека, Бухенвальда і многіх іншых канцэнтрацыйных лагераў, у якія траплялі асабліва небяспечныя для фашысцкага рэжыму людзі — падпольшчыкі, партызаны і іх сувязныя, ваеннапалонныя...

Аднак ахвяры нацысцкіх праследаванняў да гэтага часу не прызнаны ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны.

*СПРАВА АБ БАНКАХ*

## ЦІ ПА ПРАЦЫ АПЛАТА?

Урад Беларусі сур'ёзна занепакоены ўзроўнем заработнай платы банкаўскіх служачых. Пра гэта сведчыць даручэнне Савета Міністраў рэспублікі Дзяржкампрацы і Мінфіну Беларусі падрыхтаваць запіску, якая б адлюстроўвала становішча фінансавых спраў у шасці вядучых камерцыйных банках рэспублікі.

Аказалася, што 27,5 тысячы работнікаў беларускіх банкаў у студзені—ліпені бягучага года атрымалі больш за 9,2 мільярда рублёў, што складае 73,4 працэнта да фонду аплаты працы работнікаў дзяржаўнага ўпраўлення пры колькасці служачых у 2 разы меншай.

Узровень сярэднемесячнай зарплаты ў банкаўскіх установах склаў у студзені—ліпені 1993 года 47,9 тысячы рублёў, у ліпені — 73,9 тысячы. Гэта перавысіла сярэдні паказчык па народнай гаспадарцы адпаведна ў 1,9 і 1,76 раза.

*НА ЧЫГУНЦЫ*

## ВАЙНА НА РЭЙКАХ

Ва Упраўленні Беларускай чыгункі паведамілі, што за 9 месяцаў бягучага года ад сутыкненняў, сходаў, пашкоджанняў, псавання лакаматываў і іншага рухомага саставу ўрон склаў амаль дваццаць мільёнаў рублёў.

Пяць працэнтаў ад гэтай сумы прыпадае на сутыкненні, псаванне цеплавозаў і электравозаў. За кошт непасрэдных вінаватых страты пакрыты толькі на сорак працэнтаў, што складае 441 тысячу рублёў. Астатнія страты — амаль 19 мільёнаў рублёў — спагнаць няма з каго, таму што вінаватых, як правіла, устанавіць немагчыма. Хаця вядома, што знаходзяцца яны сярод пасажыраў і, бавячы час у дарозе, рэжуць сядзенні, б'юць шкло, робяць падпалы, адкручваюць і крадуць ручкі, кручкі, замкі і нават багажныя паліцы.

Калі да гэтых мільёнаў прыплюсаваць урон ад крадзяжоў медных перамычак, разукамплектавання электрашчытоў, накладвання на рэйкі пабочных прадметаў і звязаных з гэтым затрымак цягнікоў, то сённяшнюю сітуацыю на Беларускай чыгунцы можна параўнаць толькі з падзеямі пяцідзесяцігадовай даўнасці — вядомай «рэйкавай вайной».

*НАВІНКА НА КАНВЕЕРЫ*



Гэты надзіва сімпатычны выраб падрыхтаваў да выпуску мінскі завод N 407 грамадзянскай авіяцыі.

Высокі ўзровень вытворчасці дазваляе авіярамонтнікам брацца за асваенне тэхнічна складаных тавараў народнага спажывання. Сярод іх — і гэтая печ СВЧ «Белая Русь». Аб'ём яе рабочай камеры — 39 літраў. Гэта адна з самых вялікіх мікрахвалевых печаў не толькі ў СНД, але і ў свеце.

Цяпер навінка рыхтуецца да серыйнай вытворчасці. У будучым годзе будзе выраблена да 10 тысяч мікрахвалевых печаў.

НА ЗДЫМКУ: майстар Барыс ФІНЕВІЧ і інжынер-тэхнолаг Ігар КОДЗІС займаюцца адпрацоўкай тэхналогіі вытворчасці СВЧ-печы «Белая Русь».

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## СЛОВА БОЖАЕ

Так званы катэхізічны інстытут адкрыўся ў Гродне.

Пасля трох гадоў вучобы яго выпускнікі атрымаюць права на выкладанне вучэння аб рэлігіі ў царкоўнапрыходскіх і агульнаадукацыйных школах. На занятках, якія праводзяць выкладчыкі з Польшчы і мясцовыя свяшчэннаслужыцелі, звыш ста студэнтаў акрамя багаслоўскіх дысцыплін вывучаюць псіхалогію, філасофію і іншыя агульнаадукацыйныя прадметы. Гэта трэцяя пасля семінарыі і завочнага філіяла Маскоўскага каледжа каталіцкай тэалогіі духоўная навучальная ўстанова ў Гродне.

*ГОРШ ЗА ЧАРНОБЫЛЬ*

## «БОМБА» ПАД ГОМЕЛЕМ

Хімічны завод у Гомелі, які вырабляе ўгнаенні, так неабходныя Беларусі, адмоўна ўздзейнічае на здароўе людзей. Даследаванні паказалі, што насельніцтва ў раёне, які акаляе хімзавод, мае небяспечныя сімптомы захворванняў, яны тут на 39 працэнтаў вышэйшыя, чым на непрамысловых тэрыторыях Гомеля.

Але самае страшнае спецыялісты прадракаюць праз 30 гадоў, калі пры існуючых сёння тэхналогіях вытворчасці непазбежна выйдуць са строю падземныя крыніцы пітнога водазабеспячэння. Такая катастрофа будзе горшай за чарнобыльскую.

Выхад пакуль не знойдзены. Усё ўпіраецца ў грошы, якіх ні завод, ні горад не маюць.

*З БАБРУЙСКА*

## АЛІМПІЙСКІЯ СУВЕНІРЫ

Алімпійскія гульні пройдуць, як вядома, у Аўстраліі. А вось сувеніры, якія будуць прадавацца ў час іх правядзення, нарадзіліся ў Бабруйску, у вучылішчы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сумесна з мельбурнскай фірмай «Глобе» тут праведзены конкурс на лепшы алімпійскі сувенір. 26 майстроў-выкладчыкаў і 30 навучэнцаў прадставілі на суд міжнароднага журы 60 эскізаў і ўзораў. Першай прэміі — сто долараў удастоены член Саюза мастакоў старэйшы майстар В. Самачорнаў і яго арыгінальная керамічная скрынка ў выглядзе будынка Сіднейскай оперы. Акрамя таго, многія працы канкурсантаў рэкамендаваны аўстралійцамі для запуску ў серыйную вытворчасць.

*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## АБ ПУСТЫХ ПАЛІЦАХ І ПОЎНЫХ ВІТРЫНАХ

На канец восені прыпадае Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі. Гэта, бадай што, адзінае савецкае свята, якое засталося з мінулых гадоў і якое па традыцыі адзначаецца даволі шырока.

Праходзіла сёлета яно ў кожным рэгіёне рэспублікі па-рознаму. У адным выпадку «па-сямейнаму» — у межах сваёй гаспадаркі; у другім — з вялікай колькасцю гасцей, з удзелам вядомых артыстаў, пісьменнікаў, вучоных; у трэцім — з так званай выязной мадэллю: арганізацыяй рынкаў, кірмашоў у вялікіх і малых гарадах.

Самы буйны з кірмашоў быў арганізаваны ў Мінску, куды прывезлі сваю прадукцыю гаспадаркі з усёй вобласці. Кожны наведвальнік мог набыць сельскагаспадарчыя тавары не горшай якасці, чым тыя, што былі на вітрынах. Кірмаш даў магчымасць пазнаёміцца з новымі гатункамі садавіны, гародніны, а ў апошні дзень наведвальнікі маглі атрымаць ад удзельнікаў (часта бясплатна!) насенне і бульбы, і бурачкоў, і морквы, і яшчэ шмат чаго — на развод, слухалі сапраўдныя лекцыі аб вырошчванні тых ці іншых культур.

Але, як гэта ні парадаксальна, галоўныя падзеі кірмашу «Мінская восень-93" адбываліся на адкрытай пляцоўцы былой ВДНГ Беларусі. Сюды адзін за адным прыходзілі грузавікі з бульбай і яблыкамі, морквай і капустай, мясам і мяснымі вырабамі... Усяго і не пералічыш.



Мінчанам, якія ў гэтыя дні дарэмна аб'язджаюць і абыходзяць далёкія і блізкія магазіны, якім надакучылі пустыя паліцы, такое багацце здалося ледзь не маннай нябеснй. Тым больш цэны нават на такія дэфіцыты і далікатэсы, як рулет, бекон і іншае, былі, у параўнанні з дзяржаўнымі ці рыначнымі, намнога ніжэйшымі. Вось і выстройваліся доўгія чэргі мінчан ля тых грузавікоў, што бесперапынна прыбывалі сюды з усіх раёнаў вобласці.

Прыцягнула ўвагу да кірмашу яшчэ адна акалічнасць. Сёлета калгасы і саўгасы Міншчыны паказалі не толькі ўраджай сваіх агародаў, палёў, здабыткі ферм. На кірмашы можна было сустрэць і прамысловыя вырабы: драцяныя сеткі для агароджаў, прыстасаванні для патрэб будаўніцтва, якія з поспехам могуць ужывацца і на будаўнічых пляцоўках гарадоў, вырабы з шкурак пушных звяркоў.

І аб апошнім. Сказаць, што на Беларусі добра развіваецца фермерства, — значыць пакрывіць душой. Але яно ўсё глыбей і глыбей пускае свае карані. Што справа гэта выгадная, — бясспрэчна. Выгадная для саміх фермераў і для нас, гараджан. Возьмем, да прыкладу, фермераў з Юзуфава (кіламетраў за 20 ад сталіцы) Парфіновічаў. Гады два, як завялі сваю асабістую гаспадарку, не так шмат і зямлі маюць, а ўжо акупілі затраты на тэхніку, забяспечылі сябе сельгаспрадукцыяй і нешта могуць прадаць на рынку. Прайшоўшы Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі, вядома, не змог згладзіць тых цяжкасцей, якіх сёння нямала на вёсцы. Удзельнікі кірмашу «Мінская восень-93" скардзіліся на недахоп гаручага, дарагоўлю тэхнікі, адсутнасць будматэрыялаў. Церпяць яны і значныя страты ад рэалізацыі гародніны, садавіны, мясных і малочных вырабаў. Так нядоўга дайсці не толькі да зусім пустых прылаўкаў нашых магазінаў, але і да таго, што ў наступны раз не будзе чаго везці нават на кірмаш.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКУ: вось такія чэргі можна было ўбачыць на кірмашы «Мінская восень-93".

ДЗІЦЯЧЫЯ ПРАБЛЕМЫ: КАМУ ГЭТА БАЛІЦЬ?

# "ПРАМЕНЬ" СВЕЦІЦЬ У ГРОДНЕ

Калі ў дзяцей адпачынак , канікулы, у бацькоў галава баліць больш звычайнага за сваіх чадаў. Пойдуць дарослыя на працу, а дзеці на ўвесь дзень застаюцца дома адны. Добра, як ёсць бабуля. А калі яе пенсіі ледзь хапае на тыдзень, і яна мусіць ісці працаваць? Зрэдку цяпер сустрэнеш і маці, якая не працуе або, у рэшце рэшт, можа сабе дазволіць за свой кошт на якія дзесяць дзён узяць адпачынак, каб застацца побач са сваім дзіцем. Што ўжо казаць пра няпоўныя сем'і ( а такіх зараз больш, чым 40 працэнтаў), у якіх маці выхоўвае дзяцей адна? Вось так матэрыяльныя цяжкасці, якія прымушаюць пераважную большасць людзей шукаць заробкаў, турботы і клопаты, недахоп часу адлучаюць нас ад сваіх дзяцей. А статыстыка сведчыць, што ў дні канікулаў павялічваецца траўматызм дзяцей, ёсць і тэндэнцыя росту падлеткавай злачыннасці.

Вядома, што па тым, як вырашаюцца ў краіне праблемы дзяцінства, мацярынства і старых людзей, можна меркаваць аб дабрабыце дзяржавы. На жаль, у нас у гэтым накірунку, куды ні зірні, адны дзіркі, і ніхто не ведае, дзе знайсці «тканіны», каб іх залатаць. Да гэтай пары так і не прыняты яшчэ ў Беларусі закон аб правах і абароне дзяцей і падлеткаў. Не чуваць болей і лозунга: «Усё лепшае дзецям». Адыходзяць у мінулае былыя Палацы піянераў. Гурткі ж камерцыялізуюцца і таму зноў не па кішэні большасці жадаючых іх наведваць. Але ж пакуль ёсць дзеці (а нараджаецца іх з кожным днём усё менш і менш), хтосьці павінен аб іх клапаціцца.

Вось і засвяціў у гэтым годзе ў Гродне «Прамень», каб падараваць святло і цяпло дзецям і падлеткам. Гэта зусім новая мадэль пазашкольнай установы, якая аказвае дапамогу не толькі нашаму маладому пакаленню, але і іх бацькам, а таксама настаўнікам, што працуюць разам з імі. Дзіцячы і падлеткавы цэнтр «Прамень» Кастрычніцкага раёна горада Гродна заклаў у свой падмурак тое лепшае, што засталося ад былога Дома піянераў, дзіцячых пакояў і клубаў, і напоўніў яго новым зместам. Кожны можа знайсці тут занятак па інтарэсах. У цэнтры працуе 180 гурткоў: музычныя, спартыўныя, дэкаратыўна-прыкладныя, тэхнічныя і шмат іншых. Тры тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак выяўляюць свае творчыя здольнасці, атрымліваюць нейкія пэўныя навыкі, што спрыяе фармаванню іх прафесійных схільнасцяў і інтарэсаў. Застаецца дадаць, што ўсё гэта бясплатна.



Арганізацыя вольнага часу, асабліва падчас школьных канікулаў, — першапачатковая задача цэнтра. Праводзяцца тут і музычна-гульневыя праграмы, і дыскатэкі, і віктарыны, фальклорныя фестывалі і музычныя калейдаскопы. Можна наведаць клуб аўтарскай песні або філатэлістаў, камп'ютэрны клас.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ: дзіцячы польскі ансамбль "Дзвонэчкі" завітаў да дзяцей з цэнтра "Прамень".**

# РКПБ ЯК ЛЮСТЭРКА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Імкліва пагаршаецца стан здароўя ўжо хворых людзей — за месяц іх знаходжання ў бальніцы цэны, палітыка, ды і само жыццё змяняюцца настолькі, што, выпісаўшыся дамоў, яны не могуць адаптавацца да новых умоў і з цяжкай дэпрэсіяй амаль адразу ж трапляюць зноў у бальніцу. Але што хворыя!.. Здаровыя дагэтуль людзі, даведаўшыся, што іх скарацілі на працы, разгубліваюцца настолькі, што многія з іх становяцца пацыентамі Навінак.

— Самае жудаснае для іх, — растлумачылі мне, — гэта момант асэнсавання сваёй непатрэбнасці. Вынікам можа стаць інсульт, гіпертанічны крыз, язвавая хвароба ці інфаркт, пасля якіх развіваецца стойкая дэпрэсія. Як накарміць сям'ю? Вывучыць дзяцей? Чым заплаціць за кватэру? Працаздольны чалавек адчувае сябе абузай і нярэдка ў такім стане прымае ракавое рашэнне пазбавіць ад сябе родных, сваякоў і ўвесь белы свет... Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што доўгія гады ў грамадстве выпрацоўваўся стэрэатып — сэнс жыцця ў працы. Мы жывём, каб працаваць, і пазбавіцца работы — значыць згубіць сэнс існавання. Нас вучылі таму, што найвялікшая заваёва сацыялізму — упэўненасць у заўтрашнім дні. Сёння за гэты лозунг мы расплачваемся сіндромам адсутнасці будучыні. І каб толькі гэтым... Пакаленні выхоўваліся на нерэальных мэтах, ілжывых ідэалах, зманлівых маральных арыенцірах. Калі-небудзь гэта ўсё было павінна рухнуць, пахаваўшы пад сваімі абломкамі штучна пабудаванае грамадства. Рухнула. Ілжывых арыенціраў быццам бы няма, сапраўдных — таксама, што зноў жа не надае людзям упэўненасці і душэўнага здароўя. Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і некаторымі рысамі нашага непаўторнага менталітэту. Не раз у час размовы ўрачы-псіхіятры падкрэслівалі, што псіхічнае захворванне зусім неабавязкова закранае інтэлект. Больш таго, генетык, доктар біялагічных навук, прафесар Эфраімсон даказаў, што шэраг хвароб, сярод якіх прысутнічае, напрыклад, маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз, у геніяў сустракаецца значна часцей, чым у нармальных людзей.

На Захадзе да псіхічных захворванняў ставяцца, як і да любых іншых, і візіт да псіхіятра не ператвараецца ў ганьбу для чалавека і ўсёй сям'і, а рэабілітацыі хворых і сацыяльнаму ўладкаванню надаецца вельмі вялікая ўвага. У нас жа чалавек, які пабываў у Навінках, назаўсёды атрымлівае ярлык дурня ці «псіха». А чаго яшчэ чакаць ад грамадства, у якім 75 год старанна выхоўвалі аднадумства? Калі думае інакш, не так, як трэба, значыць, не такі, як усе. Нават тэрмін прыдумалі — «іншадумец», сінонімамі якога былі словы «вораг», «адшчапенец». Але ж іншадумцамі былі і Леанарда, і Пушкін, і Дастаеўскі. Толькі тое, што іх склад думак адрозніваўся ад складу думак і бачання свету сярэднестатыстычнага абывацеля, і дазволіла ім узняцца над натоўпам, паглядзець на звычныя рэчы новым, незвычайным поглядам і перадаць гэтае бачанне нам.

Але вернемся да простых людзей, тых самых, якіх яшчэ гадоў пяць таму прымалі ў Навінках не больш як 45 у дзень, а сёння бывае і 70, і больш. Урачы, што займаюцца такой цяжкай хваробай, як шызафрэнія, заўважылі, што хворых на яе ў чарнобыльскіх раёнах значна больш і абвастрэнні бываюць часцей. Наўрад ці шызафрэнія — вынік уздзеяння радыяцыі. Калі што і выклікае гэту навалач, дык страх і ўсё той жа стрэс, што бясконца зацягнуўся. Выхаваны на бясплатнай медыцыне, народ даўно прывык сам шукаць сабе і ўрачоў, і лекі. Як правіла, урачом аказваецца сусед, а самым універсальным лякарствам ад усіх хвароб разам — празрыстая вадкасць у бутэльках аб'ёмам паўлітра, якая прадаецца не ў аптэках па рэцэптах, а ў гастраномах па картках. Пакольні стрэс зацягнуўся, лячэнне, адпаведна, таксама. Алкаголь растварае сённяшнія праблемы і дазваляе не думаць пра заўтрашнія. Чалавек, нібы ўлітка, хаваецца ў сваю ракавіну, каб не бачыць таго, што робіцца навокал. Некаторыя апамятаюцца толькі ва ўсё той жа лячэбнай установе, абрэвіятура якой па іроніі лёсу гучыць гэтак жа, як і Расійская камуністычная партыя (бальшавікоў).

«Але ж хаця б некаму сёння павінна быць добра?» — падумала я і спытала пра пункт гледжання ўрачоў на стан душэўнага здароўя нашых бізнесменаў. Аказалася, сапраўды, сюды яны амаль што не трапляюць, бо змаглі паспяхова прыстасавацца да сённяшняга жыцця і знайсці ў ім сваё месца. У бізнесменаў таксама бываюць псіхічныя расстройствы, і куды больш сур'ёзныя, чым у многіх пацыентаў Навінак, але іх бурная дзейнасць многае кампенсуе, а такія сімптомы, як, напрыклад, бяссонніца, нават радуюць: больш часу для работы застаецца. Часцей за ўсё ў гэтай групы насельніцтва сустракаецца алкагольны псіхоз. Прафесійная хвароба, так сказаць.

Што датычыцца палітыкаў — тут урачы былі крайне стрыманымі і карэктнымі. Тым не менш, растлумачылі, што асноўным крытэрыем пастаноўкі дыягназу для ўрача-псіхіятра служыць размова з чалавекам, аналіз яго паводзін, выказванняў. А дзе, як не на пасяджэннях Вярхоўнага Савета ці палітычных выступленнях, гэта можна ўбачыць і пачуць? Здольнасць фармуляваць думку, паслядоўнасць выказванняў, іх лагічнасць (ці адсутнасць і першага, і другога), нават пабудова сказа можа даць багаты матэрыял для прафесійнага псіхіятра. «Д'ябал гуляе намі, калі мы не мыслім дакладна», — гаварыў мудры Міраб Мамардашвілі. А што ўжо гаварыць пра бойкі за мікрафон, калі шчаслівы пераможца не можа ўспомніць, што ж ён хацеў сказаць... Але ж усё гэта — урачэбная тайна, якую, будзьце спакойны, мне не выдалі. Задала я і яшчэ адно пытанне:

— Шырокавядома, што многія вар'яты аб'яўлялі сябе Аляксандрам Македонскім, Напалеонам ці некім яшчэ, атаясамліваючы сябе з вядомымі гістарычнымі асобамі. Ці не паступалі да вас у апошні час хворыя, якія б ідэнтыфікавалі сябе з членамі беларускага парламента? Аказалася, што не. Напэўна, гэтая роля зайздроснай нікому не падалася. Ёсць, праўда, у аддзяленні адна жанчына, якая гаворыць, што напрамую звязана з Крамлём, але ж пра тое, што там робіцца, яна маўчыць.

Мы ўжо даўно не жывём, мы — выжываем. Выжываем так, як гэта робіцца ў жывёл: мацнейшы — будзе жыць, слабейшы — загіне. Слабейшыя сярод слабых — гэта дзеці. У параўнанні з 1985-м годам сярод нашых дзяцей у 10 разоў павялічылася колькасць пагранічных захворванняў. Штодзённая раздражнёнасць і азлобленасць бацькоў, чэргі і безграшоўе, прыніжанасць і алкагалізм — усё гэта «падае» на галовы нашых дзяцей. Сапраўды, не на начальніка ж крычаць за тое, што табе адарвалі ўсе гузікі ў аўтобусе, які ходзіць раз у гадзіну. А гэта, між іншым, закладвае псіхалагічную схільнасць да жорсткасці ў самым раннім узросце.

«Бацькі — прыклад для дзіцяці». Гэты пастулат застаецца непахісным у любым грамадстве. Сёння многія бацькі занятыя здабываннем грошай. Наталля Канстанцінаўна расказала мне пра 12-гадовага хлопчыка, які рабаваў камерцыйныя кіёскі. Першы яго «ўлоў» склаў 67 тысяч, другі — ужо 100. Ён добра ведаў дарослых, якім можна было збыць тавар, ведаў, што трэба браць у першую чаргу. Нарабаванае захоўваў дома, пад ложкам у двухпакаёвай кватэры. Маці клянецца, што нічога не бачыла і не ведала. Можа і так, бо яна большую частку свайго часу праводзіць у камерцыйных турах па кірмашах Польшчы, Румыніі і Турцыі, каб набыць рэчы для гандлю ў тых жа камерцыйных кіёсках. Сапраўды, як тут разабрацць, што ў доме тваё, а што — крадзенае?

Гэты хлопчык — не адзіны, каго з дзіцячага пакоя міліцыі дасылаюць у Навінкі на псіхіятрычную экспертызу. 6-7-гадовыя дзеці прафесійна і з задавальненнем тлумачаць непрактычным псіхіятрам, як з найбольшай выгадай ператварыць «зайчыкаў» у «баксы». Халодныя, разважлівыя, меркантыльныя дзеці, якія лічаць, што «Дзядзька Сцёпа» — гэта ўчастковы, і добра ведаюць курсы ўсіх валют у камерцыйных банках горада, гэта наша будучыня? Яны пакідаюць дом, і бацькі, якія раней ставілі ў такім выпадку на ногі міліцыю ўсёй краіны, сёння нават не паведамляюць пра знікненне адзінага дзіцяці. Многія нават палёгку адчуваюць, што пазбаўлены лішняга клопату.

Ёсць такая прытча: жыла дружная сям'я — муж, жонка і шмат дзяцей. Прыйшло гора: памёр муж, і забітая горам жанчына адасобілася, замкнулася ў сабе. Дзеці лашчыліся да яе, звярталіся да маці ў пошуках любові і падтрымкі, але ў адказ чулі толькі адно — адчапіцеся! Захварэла і памерла адно дзіця, потым — другое... І ўзяў Бог да сябе ўсіх яе дзяцей. Спакутаваная жанчына прыйшла да святара і кінулася яму ў ногі з адзіным пытаннем: за што мне гэта?! А святар ёй і адказаў: «Ты ж, матухна, сама ім гаварыла — адчапіцеся ды адчапіцеся! Вось Гасподзь тваю просьбу і пачуў».

Пакідаю гэту прытчу замест дзяжурных заклікаў апамятацца і звярнуцца да сваіх дзяцей. Наўрад ці чарговыя лозунгі маюць сэнс у грамадстве, якое зараз нагадвае самалёт, што выконвае фігуру вышэйшага пілатажу, якая называецца «штопар». Машына імкліва нясецца насустрач зямлі, і калі лётчык спозніцца, самалёт разаб'ецца ўшчэнт. Вось і мы так... Да катастрофы засталося зусім нямнога, але ці ўдасца спыніць падзенне і выйсці з гэтага смяротнага небяспечнага становішча — невядома.

* * *

У Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы, якая зараз нагадвае невялікі гарадок, было сонечна і ціха. Па галінках сасны, стрэсваючы іней, праскакала вавёрка. Раптам падалося, што вар'яцкі дом не ў гэтай прыгажосці, цішыні і спакоі, а там, на шумных і брудных вуліцах, у таўкатні і лаянках магазінаў, адкуль я нядаўна прыехала і куды ад'язджаю зноў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*З КАМАНДЗІРОЎКІ Ў БЛІЗКАЕ ЗАМЕЖЖА*

# У БЕЛАРУСАЎ КАЛІНІНГРАДА

У кастрычніку згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» наладзіла паездку да нашых землякоў у горад Калінінград. Ад «Бацькаўшчыны» паехалі Ганна Сурмач, Ніна Петухова. Яны запрасілі з сабой эканаміста Міколу Бяляцкага, выкладчына ВНУ і дырэктара малога прадпрыемства «Вектар», заслужаную артыстку Рэспублікі Беларусь Таццяну Мархель і Алену Панкратаву, супрацоўніцу беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Усе гэтыя людзі мужна пераадолелі пагранічны кантроль на межах з Літвою, Расіяй і даехалі да burштынавага краю. У Калінінградскай вобласці жыве каля двухсот тысяч беларусаў. У самім жа горадзе налічваецца прыкладна восемдзесят тысяч нашых землякоў. Яны жывуць у горадзе, дзе помнік Калініну знаходзіцца ў некалькіх сотнях метраў ад Палаца маракоў, былой гарадской біржы, дзіўнага збудавання, пафарбаванага ў блакітны колер, якое, здаецца, плыве па рацэ, бо палова яго стаіць проста на вадзе. У гэтым горадзе варта толькі павярнуць галаву, каб убачыць здалёк калінінградскі порт ці былы кафедральны сабор. Храм разбураны, і яго збіраюцца рэстаўрыраваць. Ля яго сцен пахаваны Эмануіл Кант, які выкладаў калісьці ў Кёнігсбергу. Рысы старога Кёнігсберга нават пры беглым аглядзе заўважаюцца ў сённяшнім Калінінградзе. Іх можна ўбачыць ва ўзведзеных за нямецкім часам моцных асабняках, іншых пабудовах.

У Калінінградзе ўжо тры гады існуе беларуская суполка «Каралявец», якую ўзначальвае Ігар Шаховіч. Калі чуеш добрую беларускую мову, на якой размаўляе гэты трыццацігадовы чалавек, нават не падумаеш, што ён нарадзіўся па-за Беларуссю. Вывучыў мову дзякуючы маці і кнігам. Па спецыяльнасці Ігар — фізік. Жонка ў яго руская, аднак яна здолела зразумець Ігараву адданасць Беларусі, працу ў суполцы, ягоныя бясконцыя набыванні беларускіх пласцінак, кніг, касет. У членаў суполкі ёсць 2 камерцыйныя крамы. Даходы ад іх дапамагаюць наладжваць мерапрыемствы ў суполцы, сустракаць гасцей.

Гэтым разам гасцей з Мінска сустрэлі шматлікімі пытаннямі. Людзей цікавіла эканамічнае, палітычнае становішча на Беларусі. Яны казалі, што на тэрыторыі Калінінградскай вобласці падае нараджальнасць, павялічваецца смяротнасць, і з болем даведваліся, што на Беларусі адбываецца тое ж самае. Беларусаў у Калінінградзе і мінчан засмучала, што сёння становіцца праблемай наведаць сваякоў на Беларусі і ў Расіі. Для таго каб праехаць па тэрыторыі Літвы з Калінінграда ў Мінск, трэба мець замежны пашпарт. Хоць Расія і падпісала з Беларуссю дамову аб адзінай таможнай прасторы, але застаецца шмат праблем. Падатковая сістэма, якая дзейнічае на Беларусі, нібы спецыяльна створана дзеля таго, каб перашкаджаць супрацоўніцтву з беларускімі вытворцамі. Эканоміка, як вядома, з"яўляецца падмуркам для нацыянальна-культурнага развіцця краіны. Дарэчы, пры «Бацькаўшчыне» створаны міжнародны цэнтр прадпрымальнікаў беларускай дыяспары. Мэта яго — каардынацыя, камунікацыя паміж прадпрымальнікамі-беларусамі, якія жывуць па ўсім свеце. Члены рады цэнтра — гэта прадпрымальнікі Расіі, Польшчы, Прыбалтыкі, Амерыкі, Ірландыі і Беларусі.

На жаль, пра створаны цэнтр мала хто ведае. Людзі часта спецыяльна прыязджаюць на Беларусь, каб наладзіць кантакты. Калі яны звяртаюцца да дзяржаўных чыноўнікаў, то разумеюць, што далей жаданняў тут не пойдзеш. Так, наш зямляк Пётр Барысевіч прыехаў у Мінск, каб даведацца, ці можна тут арганізаваць сумеснае калінінградска-беларускае прадпрыемства. У Міністэрстве гандлю яму параілі звярнуцца да сумеснай беларуска-аўстрыйскай фірмы. Пазней дадалі, што замежны партнёр павінен заплаціць 20 тысяч амерыканскіх долараў за рэгістрацыю сумеснага прадпрыемства. Потым высветлілася, што лічба завышаная, але прыведзены факт характарызуе «дасведчанасць» чыноўнікаў.

Пётр Барысеіч з"яўляецца генеральным дырэктарам фірмы «Балтінсерв». Ён лічыць, што Беларусь магла б набыць шмат карысных кантактаў у Калінінградзе, дзе нямала замежных фірмаў. Калі там адкрыць беларускі гандлёвы дом (а дзеля гэтага П.Барысевіч гатовы ахвяраваць памяшканне свайго дэгустацыйнага салона), то беларускія тавары адразу атрымаюць рэкламу і выхад на Захад. З часам гандлёвы дом мог бы стаць проста беларускім цэнтрам, дзе былі б беларускія кнігі, газеты, відэа- і аўдыёзапісы.

Калінінград мог бы дапамагчы Беларусі з выхадам да мора. Дарэчы, хоць флоту ў нас няма, але ёсць упраўленне марскога гандлёвага флоту Беларусі з штатам 6 чалавек. Пётр Барысевіч звяртаўся да яго старшыні і тлумачыў, што калі Беларусь будзе мець усяго 2 судны ў Калінінградскім порце на правах сумеснага расійска-беларускага прадпрыемства, то праз 8 месяцаў усе затраты акупяцца. Беларусь жа атрымае тавары, харчаванне з краін Заходняй Еўропы без пасрэднікаў. Справа пакуль стаіць на месцы. Беларусь гандлюе з палякамі, якія прадаюць нам нямецкія тавары.

Пётр Барысевіч кажа, што яму Беларусь патрэбна не дзеля таго, каб рабіць грошы. Іх лягчэй мець у Калінінградзе. П.Барысевіч ездзіць на Беларусь, бо яму не дае спакою пачуццё маральнай адказнасці за лёс роднай зямлі. Ён хоча дапамагчы Бацькаўшчыне і беларусам.

Канешне, далёка не ўсе беларусы ў Калінінградзе стаяць так цвёрда на нагах, што могуць самі нешта прапаноўваць нашай краіне. Многім патрэбна дапамога. Людзі хочуць вярнуцца на Беларусь. Іх не палохае ні радыяцыя, ні нізкі ўзровень жыцця. Аднак многія баяцца за сваіх дзяцей, якія вучацца ў рускіх школах і не ведаюць беларускай мовы. Задаваліся пытанні, ці не будзе складанасцей для сям"і, дзе жонка беларуска, а муж рускі. Канешне, на Беларусі ніхто відавочна не прыцясняе людзей іншай нацыі. Але хто ведае, што будзе праз некалькі гадоў.

У Тамары Якаўлевай іншая сітуацыя. Яна пераехала ў Калінінград з двума дзецьмі з Магілёўшчыны, хацела абараніць іх ад радыяцыі. Ёй абяцалі кватэру. Зараз яна жыве без прапіскі ў старым доме, пабудаваным да вайны. Калі дом збяруцца зносіць, яна можа апынуцца з дзецьмі на вуліцы. Прапіска ж дасць права на атрыманне хоць якога жылля ў Калінінградзе.

Людзі, канешне, не толькі скардзіліся адзін аднаму пры сустрэчы. І гаспадары, і госці разам спявалі, слухалі з задавальненнем выступленне Таццяны Мархель. І яшчэ ўсіх цешыў самадзейны ансамбль «Чаборы» з-пад Калінінграда, які спяваў народныя беларускія песні.

**Алена СПАСЮК.**



**У Мінску нямала брамаў, выкананых з сапраўдным мастацкім густам.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

РЭЦЭНЗУЕМ ПРАЦЫ СЯБРОЎ МАБ

# ПРА ШМАТПАКУТНУЮ ГІСТОРЫЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

У ЗША толькі што выйшла з друку кніга «Беларусь на скрыжаваннях гісторыі»[1]. Напісаў яе ўсім нам добра вядомы вучоны-беларус з Амерыкі Янка Запруднік. Гэта ўжо другая яго кніжка пра Беларусь на ангельскай мове.

Кніга Я.Запрудніка адрасавана заходняму чытачу і змяшчае ўсе патрэбныя зацікаўленым людзям звесткі пра нашу Бацькаўшчыну. У параўнанні з папярэдняй кнігай Запрудніка новае выданне куды больш змястоўнае і аб'ёмнае (280 старонак).

Пачынаецца кніга даволі падрабязным аглядам гісторыі Беларусі, якой адведзена палова выдання. Трэба адзначыць, што па адукацыі Янка Запруднік — гісторык, таму і частка кнігі, прысвечаная гісторыі нашага краю, напісана з высокай прафесійнасцю і з'яўляецца вельмі каштоўнай. Пачынаючы з утварэння Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, аўтар сцісла выкладае ўсю шматпакутную гісторыю нашай Бацькаўшчыны. Вельмі цікавы раздзел прысвечаны Залатому Веку беларускай культуры. Як піша Я.Запруднік, «памяць пра былую магутнасць і росквіт дае нам надзею» (праўда, гэтыя словы ўжыты ў адносінах да хвалі нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя, але яны стасуюцца да нас і зараз). Гісторык апісвае ўсе пакуты нашай зямлі, нашага народа — паланізацыю, а пасля русіфікацыю ва ўмовах страты сваёй дзяржаўнасці.

Пераходзячы да гісторыі XX стагоддзя, Янка Запруднік крыху па-новаму, у параўнанні з яго папярэдняй кнігай, апісвае Заходнюю Беларусь і БССР у міжваенны час. У новай кніжцы больш падкрэсліваюцца пакуты беларусаў у гады сталінскага рэжыму, і больш мякка ставіцца аўтар да палітыкі польскіх уладаў у Заходняй Беларусі.

Увогуле кніга перш за ўсё гістарычная. І вельмі істотна, што ў ёй найпоўная гісторыя апісваецца ажно да вясны 1993 года, гэта значыць пададзены матэрыял вельмі свежы. Даволі значны раздзел прысвечаны цяперашняму балансу палітычных сілаў на Беларусі, даюцца кароткія звесткі пра галоўных палітычных дзеячаў нашага краю. Яшчэ адзін раздзел прысвечаны эканамічнаму становішчу рэспублікі. Апошняя ж глава змяшчае інфармацыю пра сучасны стан дачыненняў Рэспублікі Беларусь з краінамі-суседзямі. Тон кнігі аптымістычны, прычым, аўтар падкрэслівае неабходнасць эвалюцыйнага развіцця маладой беларускай дзяржавы.

Гэтая кніга дасць заходняму чытачу (а па-ангельску на Захадзе чытаюць усе) даволі грунтоўныя веды пра Беларусь і перш за ўсё пра яе гісторыю.

**Юрась ЖАЛЕЗКА,**
**супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.**

[1] Jan Zaprudnik. Belarus at a Crossrouds in History. Boulder (Colorado), 1993.

# “ПРАМЕНЬ” СВЕЦІЦЬ У ГРОДНЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Можна завітаць у тэатральную гасцёўню або кафэ і прыемна правесці час з сябрамі.

А калі ў вас ёсць пэўныя прапановы, як цікавейшым зрабіць сваё жыццё, то можна прыняць удзел у рабоце органаў самакіравання. Для падлеткаў — гэта Клуб ініцыятывы, а для дзяцей сярэдняга ўзросту — Дзіцячы парламент.

Не забыліся ў цэнтры і пра сірот, пра дзяцей-інвалідаў (да нядаўняга часу лічылася, што іх увогуле ў грамадстве няма, і жылі яны ў сваіх прытулках і інтэрнатах адасоблена). Іх тут чакаюць, з імі вядзецца праца. Для іх арганізуюцца канцэрты, выставы, сустрэчы, дзеці дораць ім зробленыя сваімі рукамі сувеніры. Але ж самае каштоўнае, што, працуючы і гуляючы з гэтымі пакрыўджанымі лёсам дзецьмі, здаровыя іх раўеснікі вучацца спачуваць, быць добрымі і міласэрнымі. Для дзяцей-сірот і інвалідаў, для людзей старэйшага ўзросту працуе Бюро добрых паслуг.

Існуе пры цэнтры і яшчэ адна вельмі патрэбная для падлеткаў служба — гэта ананімны тэлефон даверу. У наш стрэсавы век дзеці, як найбольш ранімыя і безабаронныя, трапляюць у сітуацыі, калі ім цяжка знайсці выйсце самастойна, а дарослыя з-за недахопу часу ці з-за свайго эгаізму не заўсёды могуць разгледзець гэтыя праблемы і дапамагчы. Адсюль і непаразуменні ў школе з настаўнікамі ці сябрамі, а дома — з бацькамі. А першае каханне? Так патрэбны ім у гэты момант спачуванне, парада, падтрымка. Усё гэта можна атрымаць ад кваліфікаваных псіхолагаў, якія працуюць у цэнтры.

Вось так, спалучаючы старое і новае, жыве «Прамень». А кіруе ім энтузіяст сваёй справы Святлана Красюк. «Не вельмі лёгка далося нам стварэнне цэнтра, — расказвае Святлана Георгіеўна. — Шмат парогаў давялося паабіваць. І нават цяпер, калі праца збольшага наладжана, маем шмат праблем. Няма сыравіны для работы гурткоў, а калі якую і знойдзем, дзе ўзяць машыну, каб яе прывезці? Няма на чым прывезці і дзяцей-інвалідаў. Пакуль што бацькі ў грамадскім транспарце на сваіх руках прывозяць іх сюды самі. Няма каму фінансаваць выязныя экскурсіі. Бачыце, якое ў нас памяшканне? Але хутка і гэта страцім, калі пабудуюць побач дзіцячую паліклініку. Дзве ўстановы побач для хворых і здаровых дзяцей быць не могуць. Але ж, спадзяюся, выйсце знойдзем, і дзеці без даху не застануцца».

Трэба адзначыць, што амаль уся пазашкольная справа трымаецца на энтузіястах, а справа вельмі важная: ад яе залежыць ні многа ні мала — наша будучыня.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# БНР — БССР — РБ,

## або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

### 3. БАЛЬШАВІКІ НЕ ЗБІРАЛІСЯ РАЗ'ЯДНОЎВАЦЬ РАСІЮ

Вызнаючы прынцып права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення, бальшавікі зусім не збіраліся расчляніць былую імперыю. Як афіцыйна заяўлялася, яны шукалі сродак захаваць шматнацыянальную дзяржаву, але «не жалезам і хлуснёй», а шляхам аб"яднання нацый «непарыўнымі ланцугамі іх жывых інтарэсаў, класавай свядомасці» (Ленін). Але, як пакажа гісторыя, не абышлося без жалеза і хлусні. Барацьба з прыхільнікамі самавызначэння не на савецкай падставе вялася рашуча і бязлітасна.

У ходзе рэвалюцыі цэнтрабежныя памкненні праціўнікаў кастрычніцкага перавароту ў нацыянальных рэгіёнах узмацняліся. Бальшавікі, якія выключна лёгка ўзялі ўладу ў Беларусі і на Заходнім фронце, сустрэліся з апазіцыйным рухам, які ўзмацніўся і змагаўся за стварэнне нацыянальнай дзяржаўнасці на традыцыйнай буржуазна-дэмакратычнай аснове. Першае сур"ёзнае сутыкненне бальшавікоў і апазіцыі ў Беларусі адбылося ў снежні 1917 года, калі быў разагнаны Беларускі з"езд, які спрабаваў стварыць, насуперак Аблвыкамзаху і яго саўнаркому, нацыянальны орган улады.

Скліканнем з"езда эсэраўскі Беларускі абласны камітэт пры УЦВК (Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт) сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе меў намер павярнуць ход падзей у Беларусі, ужываючы марксісцкую тэрміналогію, у буржуазна-дэмакратычнае рэчышча. Эсэры пакуль яшчэ захоўвалі ўплыў у шматлікіх установах і арганізацыях, што існавалі да звяржэння царызму ці ўзніклі пасля Лютаўскай рэвалюцыі: мясцовае самакіраванне, зямельныя камітэты, настаўніцкія і іншыя прафесіянальныя арганізацыі, вайсковыя і бежанскія аб"яднанні і інш. У той жа час галоўная апора бальшавікоў — Заходні фронт — распалася, літаральна раставала на вачах.

На Беларускім з"ездзе меркавалася разгледзець кардынальныя пытанні грамадскага і дзяржаўнага ладу, самавызначэння Беларусі. Усё гэта абумовіла вялікую цікавасць да з"езда. Актыўны ўдзел у ім прынялі дэлегаты арганізацый, што прадстаўлялі беларускі адраджэнскі рух. «Стваральнікі з'езда, — пісаў рэчыцкі аграном і буйны палітычны дзеяч Е.Канчар, — пры сваёй пабудове плана дзяржаўнага ладу Беларусі мелі на ўвазе абаперціся на такі элемент, які б адразу пачаў выкананне праграмы, як на элемент з ведамі, вопытам і станоўчай устойлівасцю".

Трохдзённая дыскусія на з"ездзе выявіла істотныя разыходжанні яго фракцый па пытаннях дзяржаўнага ладу Беларусі, сістэмы органаў улады, адносін да Расіі. Да роспуску з"езд паспеў прыняць толькі рашэнне аб тым, што ў Беларусі зацвярджаецца рэспубліканскі лад. З"езд прызнаў цэнтральны ўрад і не прызнаваў Аблвыкамзах як структуру франтавога паходжання.

Па планах галоўнага арганізатара з"езда — Беларускага абласнога камітэта меркавалася прыняць рэзалюцыю аб абвяшчэнні Беларусі аўтаноміяй у складзе Расіі. Адміністрацыйна-кіруючыя функцыі планавалася перадаць Савету старшын. Пасля кастрычніцкага перавароту ў асяроддзі эсэраў адбылася значная эвалюцыя поглядаў на дзяржаўны лад Беларусі. З абласнікоў яны сталі аўтанамістамі-федэралістамі. Кіраўніцтва з"езда зыходзіла з таго, што Беларусь павінна сама заявіць аб сваіх нацыянальных інтарэсах і адстойваць іх. Значную частку Беларусі, да Баранавіч, у ходзе сусветнай вайны захапіла Германія. На беларускія тэрыторыі прэтэндавала Польшча, Літва, Украіна. Мірныя перагаворы Германіі і Савецкай Расіі ў Брэсце непасрэдна тычыліся лёсу Беларусі. Вельмі важна было, каб народ Беларусі быў дзяржаўна прадстаўлены. Падтрымка Наркамнацам склікання Беларускага з"езда, як нам уяўляецца, прадугледжвала і гэты бок пытання. Да расчаравання нямецкай дэлегацыі на перагаворах у Брэсце, Беларускі з"езд (пасля гісторыкі назавуць яго Беларускім кангрэсам) не выказаўся за аддзяленне Беларусі ад Расіі, хаця прапановы такія былі.

Саўнарком Заходняй вобласці, як можна меркаваць па існуючых дакументах, не меў планаў адносна самавызначэння Беларусі. Выканком не быў гатовы да такога павароту падзей. Магчымасць якога-небудзь кампраміснага рашэння пытання аб аўтаноміі была малаверагоднай, як і прадастаўленне пэўнай колькасці месцаў прадстаўнікам Беларускага з"езда ў Аблвыкамзаху.

Разгон мінскімі ўладамі Беларускага з"езда, што цалкам ігнаравалі нацыянальную спецыфіку краю, не выклікаў узброенага проціборства. Ні ў Вялікай Беларускай Рады, ні ў эсэраў не было ваенных фарміраванняў. Спроба стварыць беларускі полк на Заходнім фронце скончылася няўдачай. Сяляне аднесліся да акцыі Аблвыкамзаха даволі спакойна. У іх былі іншыя клопаты.

Да рашаючых падзей кастрычніка 1917 года беларускія арганізацыі не набылі шырокай падтрымкі ў сялян і салдат Заходняга фронта. Гэта паказалі і выбары ва Усерасійскі ўстаноўчы сход, якія адбыліся восенню 1917 года, што давала падставы ўзяўшым уладу бальшавікам не прымаць сур"ёзна беларускую нацыянальную апазіцыю.

Сітуацыя ў нацыянальна-адраджэнскім руху ўскладнялася тым, што ў ім адбыўся раскол. Рух, які грунтаваўся на ідэі адзінства ўсіх слаёў беларускага насельніцтва ў адстойванні агульнанацыянальных інтарэсаў, аслабляўся адрозненнямі класавых памкненняў яго ўдзельнікаў. Тым больш, што інтэгруючая сіла нацыянальнай свядомасці не змагла праявіцца ў дастатковай меры. Бальшавікі ж нарошчвалі і з"ядноўвалі свае сілы, прытрымліваючыся класавага прынцыпу. Культывуючы класавую свядомасць, бальшавіцкая прапаганда нагнятала нянавісць да буржуазіі, памешчыкаў і іншых класавых ворагаў, якіх кляймілі як дармаедаў, кравапійцаў, паразітаў і г.д. Прыналежнасць да маёмных класаў была як бы раўназначнай прыналежнасці да злачынных суполак.

Ідэалогія класавасці ў сталінскім тлумачэнні падрыхтоўвала глебу для зверстваў 30-х гадоў, з якімі, паводле слоў Васіля Быкава, «цяжка параўнаць які-небудзь іншы перыяд з нашай гісторыі» ("Народная газета", 1993, 7 красавіка). У адным з нядаўна апублікаваных найсакрэтнейшых дакументаў, падпісаных Берыяй, міжнароднае ваеннае злачынства — расстрэл польскіх афіцэраў (сярод іх былі і беларусы) — апраўдвалася тым, што ваеннапалонныя — класавыя ворагі.

Чамусьці ў юбілейныя дні не ўспомнілі аб плыні ў нацыянальным руху, якая пайшла за бальшавікамі (Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў, Усевалад Ігнатоўскі і іншыя). Гэтыя мужныя людзі самаадданна адстойвалі права беларусаў на нацыянальную дзяржаву, сустракаючы знявагу, асуджэнні кіраўніцтва Заходняй вобласці. Іх «штабам» стаў Беларускі нацыянальны камісарыят — пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей.

У гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва яны займаюць сваё дастойнае месца. І мы не можам не быць удзячнымі гэтым выдатным палітычным дзеячам, якія дабіваліся стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці на тэрыторыі, дзе беларусы складалі большасць насельніцтва.

Прычына расколу ў адраджэнскім руху — рознае разуменне сацыяльна-эканамічных асноў нацыянальнай дзяржаўнасці і, значыць, нацыянальнага адраджэння ўвогуле. Плыні адмаўлялі адна адну, кожная з іх заяўляла аб сваім праве на выяўленне нацыянальных інтарэсаў. Радаўцы не маглі дараваць белнацкомаўцам іх здраду «беларускай справе».

Перакананае ў справядлівасці выбранага курсу ў нацыянальным пытанні, адчуваючы сваю перавагу, кіраўніцтва Заходняй вобласці і не заўважыла, як саступіла сваім апанентам ініцыятыву ў вырашэнні «беларускага пытання». Праўда, на мітынгах, з"ездах, сходах дэклараваліся лозунгі аб нацыянальным раўнапраўі, але не было ў абласных уладаў, як вынікае з дакументаў, якой-небудзь канкрэтнай праграмы рэалізацыі гэтага права ў Беларусі.

Між тым, цэнтральная ўлада ў Маскве пад уздзеяннем працэсаў, што праходзілі ў нацыянальных раёнах, перш за ўсё на Украіне, усё больш схілялася да прыняцця плана стварэння ў Расіі федэрацыі. Як вядома, на этапе барацьбы за ўладу бальшавікі былі праціўнікамі федэрацыі. Каб не раз"яднаць рэвалюцыйныя сілы, лічылі магчымым увесці ў Расіі толькі абласную аўтаномію, арганізаваную на бытавых, гаспадарчых і нацыянальных падставах. Пасля ўзяцця ўлады, у новых гістарычных умовах, гэта формула ўжо не была прыгоднай. Каб не адстаць ад жыцця, патрабавалася ісці далей у вызначэнні канкрэтных форм рэалізацыі права нацыі на самавызначэнне.

Трэці Усерасійскі з"езд Саветаў (студзень 1918 года) прыняў рэзалюцыю аб тым, што «Расійская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка засноўваецца на падставе добраахвотнага саюза народаў Расіі, як федэрацыя савецкіх рэспублік гэтых народаў». Праўда, ход дзяржаўнай перабудовы быў іншым, чым меркаваў з'езд, але істотна было тое, што прызнавалася неабходнасць будаўніцтва ў перспектыве саюзнай дзяржавы.

### 4. АБВЯШЧЭННЕ СУВЕРЭННАЙ, НЕЗАЛЕЖНАЙ БНР

Выхад нямецкіх войск у лютым—сакавіку 1918 года да Дняпра, Брэст-Літоўскі мірны дагавор карэнным чынам змянялі сітуацыю ў Беларусі і не толькі ў Беларусі. Савецкія ўстановы паспешна эвакуіраваліся ў Смаленск, пакінуўшы немцам багатыя трафеі. Заходняя вобласць працягвала існаваць. Яе новая тэрыторыя складалася са Смаленскай і неакупіраваных частак Магілёўскай і Віцебская губерняў.

Кіраўніцтва беларускіх сацыялістычных партый вырашыла, што надышоў час рашучых дзеянняў. Свяціла надзея, што ў рэалізацыі сваіх планаў яно знойдзе разуменне Германіі, якая выдавала сябе да таго ж абаронцай прыгнечаных народаў Расіі.

Лідэры нацыянальна-адраджэнскага руху, а сярод іх было нямала вопытных палітыкаў, разумелі выключную складанасць дасягнення пастаўленых мэтаў, вымяралі свае магчымасці і вызначалі сілы, на якія можна было абаперціся.

Выканаўчы камітэт Савета Беларускага з'езда 21 лютага 1918 года прыняў Першую ўстаўную грамату да народаў Беларусі і стварыў Народны сакратарыят — часовы ўрадавы орган да склікання Устаноўчага сойма. Сам выканком аб'явіў сябе вышэйшай уладай у Беларусі. Так быў зроблены пачатковы крок у акце аб'яўлення дзяржаўнасці.

Наступныя крокі (ужо пасля падпісання 3 сакавіка 1918 года Брэст-Літоўскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй, з аднаго боку, і Германіяй і яе саюзнікамі — Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй, Турцыяй — з другога) расшыралі і паглыблялі палажэнні, накіраваныя на афармленне акта абвяшчэння беларускай дзяржаўнасці. 9 сакавіка 1918 года Другой устаўнай граматай была аб'яўлена Беларуская Народная Рэспубліка на тэрыторыі з колькаснай перавагай беларусаў, а 25 сакавіка 1918 года Трэцяй устаўнай граматай БНР была дэкларавана «незалежнай вольнай дзяржавай».

Трэцюю ўстаўную грамату называюць канстытуцыйным актам «найвялікшай важнасці», дакументам, які меў «надзвычай вялікае гістарычнае значэнне», паколькі яна аб'явіла незалежнасць БНР. ("Народная газета", 1993, 20 сакавіка).

Як толькі пытанне аб праве нацыі на самавызначэнне ставіцца ў плоскасць рэалізацыі, то палітыкам нязменна даводзіцца думаць аб форме дзяржаўнасці і яе сацыяльна-эканамічных асновах, што і знаходзіць сваё выяўленне ў першапачатковых дакументах (маніфестах, дэкларацыях і інш.), якія абвяшчаюць дзяржаўнасць.

Ініцыятары аб'яўлення БНР былі праціўнікамі ўлады бальшавікоў і з самага пачатку асудзілі кастрычніцкі пераварот як «віхар бязглуздзіцы». Аднак імкненне да самавызначэння Беларусі абумоўлівалася не толькі правам на самастойнае дзяржаўнае існаванне, але і жаданнем аддзяліцца ад бальшавіцкай Расіі, дзе ўзмацнялася разруха, нарасталі харчовыя і іншыя цяжкасці. Ідэя аўтаноміі Беларусі была заменена ўстаноўкай на поўнае аддзяленне ад Расіі.

Ва ўстаўных граматах заяўлялася, што Беларусь, якая была аб'ектам векавой тэрытарыяльнай спрэчкі суседніх дзяржаў, з'яўляецца паўнапраўным суб'ектам міжнародных адносін, што яна мае права на голас у міжнародных зносінах, на сваю самастойную дзяржаву. Граматы апелявалі да нацыянальнай свядомасці беларусаў, імкнуліся разбудзіць у іх пачуццё адказнасці за свой лёс.

Ва ўстаўных дакументах былі выказаны меркаванні аб магчымай тэрыторыі рэспублікі, яе вярхоўным органе ўлады, дэмакратычных свабодах, формах уласнасці.

З Другой устаўнай граматы ад 9 сакавіка 1918 года вынікала, што абвяшчаецца самастойная, суверэнная рэспубліка з шырокімі дэмакратычнымі правамі, з адменай прыватнай уласнасці на зямлю. З тэкста граматы само сабой вынікала, што Беларусь дзяржаўна адасабляецца ад Расіі, у складзе якой яна знаходзілась больш ста дваццаці гадоў, калі весці адлік ад апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе.

У Трэцяй устаўнай грамаце ад 25 сакавіка 1918 года ўжо прама заяўлялася аб незалежнасці Беларусі ад Расіі: «Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое было накінута расійскім царызмам на наш вольны незалежны край».

Устаўнай граматай ад 25 сакавіка разрыву дзяржаўных сувязей з Расіяй надаецца значэнне паваротнага пункта ў лёсе Беларусі, падзеі, упісанай залатымі літарамі ў яе гісторыю. Менавіта з гэтага моманту, сцвярджаюць палітыкі, пачаўся адлік часу адроджанай беларускай дзяржаўнасці.

І тым не менш, асноўныя ідэі былі выказаны ў Другой грамаце. Трэцяя грамата толькі пацвердзіла папярэднія дэкларацыі і ў катэгарычнай форме вызначыла адносіны Беларусі да Расіі. Гэта быў па сутнасці ўжо дадатковы дакумент, які меў на мэце дэклараванне нераспаўсюджання суверэнітэту Расіі на Беларусь. Магчымасць наладжвання сувязей з Расіяй на новай падставе не выключалася. Беларускі з'езд у снежні 1917 года, а затым сакавіцкія падзеі 1918 года (ужо ва ўмовах нямецкай акупацыі) былі тымі двума этапамі, якія лагічна падвялі да афіцыйнага абвяшчэння палітычных і сацыяльных асноў беларускай дзяржаўнасці.

Беларускія арганізацыі, якія аб'явілі БНР, надалі ідэі незалежнасці афіцыйнае гучанне. Упершыню адраджэнскі рух ставіў пытанне менавіта ў такой плоскасці і ў такой форме.

Далейшы ход падзей у рашаючай ступені залежаў ад палітыкі кайзераўскай Германіі ў адносінах да Беларусі. А гэтая палітыка ў аснове сваёй ужо вызначылася на мірных перагаворах у Брэсце. Таму сваім акцыям прыхільнікі БНР не знаходзілі апоры ў Брэст-Літоўскім мірным дагаворы. Наадварот, устаўныя граматы і мірны дагавор былі несумяшчальныя.

Прадстаўнікі Беларусі не ўдзельнічалі ў заключэнні 3 сакавіка 1918 года Брэст-Літоўскага мірнага дагавора. Беларусь была аб'ектам гэтага пагаднення, якое ўзаконіла яе акупацыю. Ураду Леніна адрасуюцца абвінавачанні ў тым, што ён падпісаў мірны дагавор, «не пытаючы волі беларускага народа». Але, пазбаўленай магчымасці супраціўляцца германскаму наступленню, Савецкай Расіі было не да таго. Бальшавікі імкнуліся любой цаной, у тым ліку далёка ідучымі тэрытарыяльнымі ўступкамі, захаваць уладу, не «страціць сацыялістычную рэвалюцыю ў Расіі» (Ленин В.И. Полн. собр. соч. Т. 54, с. 490—491).

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 47.**

*СА СПАДЧЫНЫ Вацлава ЛАСТОЎСКАГА*

# ПЕРШАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ ДЫСКУСІЯ І ЯЕ "ВІНОЎНІК"

У ГІСТОРЫЮ беларускай літаратуры Вацлаў Ластоўскі ўвайшоў не толькі як аўтар першай манаграфіі пра мінулае Радзімы, напісанай на роднай мове[1]. Ён — ініцыятар і прамы «віноўнік» першай у XX стагоддзі шырокай дыскусіі пра шляхі развіцця, творчы метад, накірунак і стыль будучай літаратуры.

Ліпеньскім днём 1913 года «Наша ніва» выдрукавала артыкул Ю.Верашчакі «Сплачывайце доўг». Далёка не ўсе чытачы-падпісчыкі віленскай газеты маглі назваць, хто схаваўся за тым псеўданімам. З'явіўся ён упершыню нейкія два месяцы перад тым пад публікацыяй «Беларускі радавод», пазначанай у падзагалоўку «Паводле Раманава» і потым усяго разы са два ў «Нашай ніве» пад вострымі публікацыямі з крыху задзірыстымі загалоўкамі «Ці-ткі мы сапраўды цямней за ўсіх?» і «Перш за ўсё самі».

І вось — чацвёрты вядомы на старонках «Нашай нівы» артыкул Верашчакі. Не менш задзірысты за папярэднія.

«Ехаў я чыгункай. Сустрэціўся з нейкім пажылым ягамосьцем, разгаварыліся. Сам ён родам з Тульскай губэрні, жыве ў Пецярбургу, а кожнае лета праводзіць у Беларусі. Бываў ён у Крыме, на Каўказе, знае заграніцу.

— Толькі нідзе такой харошай, такой ціхай прыроды не бачыў я, —казаў ягамосць. — Ваш край — гэта дзіўная казка, дзіўная краса крыецца ў яго пагурках, гаях, лугах і рэчках. Такое тут усё ў вас спакойнае, ціхае, задумчывае, такое паэтычнае,.. што я кожнае лета цягнуся, каб дыхнуць вашым паветрам, пацешыць вока вашымі відамі..."

Закалыханы праўдзівым французскім «bon ton», Верашчака-Ластоўскі раптам прыгадвае зусім іншае, што яму па абавязку сакратара «Нашай нівы» даводзілася зранку да вечара чытаць у дзесятках вершаваных строфаў і празаічных абзацах: пра хаты, дзе «вокны затканы анучай», пра загоны-палоскі, на якіх адно «гразь, балота і пясок», дзе «людзі — Янка ды Сымонка, птушкі — дрозд ды гусь»...

Гэта яшчэ нічога, паўбяды. Горшым патыхала ад эпігонства пра «бедныя хаткі, пахілы бярозкі». Незлічонае рыфмаплёцтва «народных творцаў» касяком плыло ад малапісьменных вяскоўцаў у рэдакцыю адзінай «сялянскай» газеты. Гэта іх «шэдэўры» мусіў рэдагаваць Купала за прыплочаныя 5 рублёў штомесяц да ложка ў выглядзе «свежа сканаўшага на сцюдзёнай тундры вярблюда», пастаўленага ў прысёнку рэдакцыі «Нашай нівы»[2].

Эпігоны заселі на мужыку, не ведаючы мінулага. Баючыся будучыні.

Сакратар «Нашай нівы» адным з першых вычуў паварот у грамадскім і культурным жыцці Беларусі сярэдзіны другога дзесяцігоддзя. Да пачатку 1913 года найбольш таленавітыя беларускія паэты ўжо адыходзілі «ад плачу»: Купала выдаў «Гусляра»; Колас распачаў шэдэўры жыцця і стагоддзя «Новую зямлю», «Сымона-музыку» з неўміручым паланезам красе бацькоўскай зямлі «Мой родны кут, як ты мне мілы!..»; Максім Багдановіч напісаў нізку «У зачараваным царстве» з праграмнымі «Мы ўжо вышлі з цесных, душных падзямельных норак» і «Прывет табе, жыццё на волі!»

Акрэслены рух распачаўся, але, на погляд маладога, няўрымслівага нашаніўскага сакратара, марудзіўся. Эпігоны сядзелі на мужыку, не жадаючы ўзняць вочы далей уласнага малаўгноенага пясчанага дзядоўскага загону. Ластоўскі нібы вырашыў стаць каталізатарам працэсу. «...дзякаваць Богу, ёсць жа ў нас ужо і імёны, каторыя маюць шырокую славу не толькі ў нашай бязграматнай і безінтэлігенцкай бацькаўшчыне, а і далёка паза межамі яе. Ад гэтых апошніх мы, чытаючае і думаючае беларускае грамадзянства, у праве вымагаць чагось для сваёй душы, мераць іхнюю творчасць меркай эўрапейскай, якую прыкладаюць усе народы на свеце да творчасці сваіх прарокаў».

Так нарадзілася дыскусія блізкіх людзей. Ясна, як Божы дзень: Вацлаў Ластоўскі справакаваў яе, інспіраваў. І як колішняе з'яўленне 18-гадовага Сяргея Палуяна ў Вільні, калі «да энтузіястычнай і без таго атмасферы», што панавала ў «Нашай ніве», нібы «ўпаў кіпучы метэор»[3], так цяпер публікацыя артыкула Верашчакі-Власта «Сплачывайце доўг» падняло летнюю «тэмпературу атмасферы» віленскага жыцця, а заадно і «тэмпераменты паасобных працаўнікоў».

Водплаведзь не прымусіла чакаць і з'явілася ў тым самым месяцы ліпені (N 30) пад назваю «Чаму плача песня наша?». Падзагаловак тлумачыў: «Адказ Юрку Верашчаку». І калі псеўданім Верашчакі лёгка стаўся раскрытым, дык подпіс пад адказам «Адзін з парнаснікаў» неяк адразу прыпісалі Янку Купалу, хоць аргументаванымі, тым больш дакументаванымі доказамі на прыналежнасць вышэйназванага (разавага) псеўданіма вялікаму паэту літаратуразнаўцы не валодаюць і ў канцы стагоддзя[4]. Але паверым, што адказ належаў Купалу, бо напісаны годна і па-купалаўску велічна, неабдымна.

Крытычна паставіўшыся да адкрыцця красы беларускага краю ягамосцем з Тулы ("Ой, ці не ёсць гэта толькі погляд бацькоў сентыменталізму, што, уміляючыся над жыццём сялянскім, бачылі ў ім адны толькі радасці"), «парнаснік» зазірнуў у невясёлае мінулае, калі «беларускія баяры і князі пераліцаваліся на польскіх паноў», адзначыўшы толькі адну светлую «нядаўнюю» дату, «завіруху... памятнага 1905 г.» Маўляў, акурат першая расійская рэвалюцыя паспрыяла, што і на Беларусі «паявіліся паэты, песняры свайго, забытага Богам і людзьмі краю і долі народнай. Прарокі яны ці не прарокі — аб гэтым скажа будучыня, але што яны косць з косьці свайго народу — аб гэтым і рэчы быць не можа».

Заўважым, адзінае катэгарычнае адмаўленне ў адказ Юрку Верашчаку. Далей у аснове сваёй ён цярпліва растлумачвае, чаму «плача песня наша», збіўшыся нават на выснову: «Мінуўшчыну ўспамінаць — гэта ўспамінаць паншчыну». Апошняе, вядома, ну аніяк не прыняў бы да канца Власт, ды і сцвярджэнне гэтае пасля выхаду «Кароткай гісторыі Беларусі» ўспрымалася анахранізмам ці недасведчанасцю апанента.

Палеміка паміж двума, хай сабе і паважанымі апанентамі, пагражае скончыцца сваркай ці маўклівай зацятасцю. «Чаму ні якага чорта ня пішыце?» — раздражнёна пытаўся з Пецярбурга Купала ў Ластоўскага яшчэ ўвесну 1913-га[5]. Дыскусія — яна тады дыскусія, калі закранае шырэйшае грамадзянства. Праз тры дні пасля выступлення «парнасніка» ў дыскусіі спрабуе голас маладзейшы на год ад нябожчыка Палуяна, але таксама не нашмат перажыўшы яго, крытык Лявон Гмырак[6]. Гэты псеўданім належаў 22-гадоваму Мечыславу Бабровічу.

Распачаўшы артыкул «Яшчэ аб сплачванні доўгу» згадкаю пра «Исторические письма» расійскага філосафа Пятра Лаўрова, у якіх ідэолаг рэвалюцыйнага народніцтва сфармуляваў тэзу пра «вялікі, неаплачаны доўг, каторы трэба звярнуць» абабранаму простаму люду, Гмырак у рэшце рэшт канстатаваў: «Думкі ягамосця Верашчакі, трэба гэта прызнаць, дужа арыгінальныя, і калі іх акуратна выразумець, саўсім справядлівы. Я абедзвюма рукамі гатоў падпісацца пад тым, што багата душы дала прырода нашай бацькаўшчыне, што за гэта мы даўжнікі яе, гэты доўг мы павінны адчуваць і сколькі хопіць сіл старацца звярнуць яго. Але разам з гэтым я лічу саўсім справядлівай і тую старану сплачвання доўгу, аб якой казаў Лаўроў. Калі гэтак, то значыцца, поўная фармуліроўка гэтай справы павінна абхопліваць абедзве формулы. Аб гэтым ягамосць Верашчака не абгаварыўся і даў праз тое права думаць, што прызнае толькі доўг перад прыродай, а адракаецца ад прызнання яго перад людзьмі...»

Заўважана трапна і па-маладому бескампрамісна.

О, як глыбока і мудра думалі тады юнакі-літаратары, падстаўляючы хударлявыя неўздужэлыя плечукі свае пад ідэю адраджэння роднай культуры і літаратуры.

Ці не з прагі паддаць духу-жару шпаркаму развіццю ўсяго беларускага прыгожага пісьменства пачатку XX стагоддзя сам Ластоўскі і напісаў адказ ад імя парнасніка, «абуранага» папрокамі Верашчакі?

---

1 Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910.

2 Ластоўскі В. Успаміны аб Янку Купалу // Шляхам гадоў. Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1993. Вып. 3. С. 153.

3 В.Л.Памяці Сяргея Палуяна // Наша ніва. 1910. 29 крас.

4 Лойка А.А. «Чаму плача песня наша?» // Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С.651.

5 Літаратурны музей Янкі Купалы. Ф.Э. Воп. П+р-1. Адз. зах. 3. N1.

6 Гмырак Л. Яшчэ аб сплачванні доўгу // Наша ніва. 1913. 16 жн., 5 верас.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

---

**ГОСЦЬ СА «СВАБОДЫ»**

# ПРАЎДА НІКОЛІ НЕ БЫВАЕ Ў МІНУЛЫМ ЧАСЕ

**Людзям простым, чыё жыццё ўмяшчаецца ў няхітрую схему «дом-работа-дом», часам здаецца, што нехта жыве па-іншаму, цікавей і разнастайней. Напрыклад, вядомыя палітыкі, артысты, бізнесмены, навукоўцы, людзі, пра якіх спрачаюцца, чые імёны на слыху ў многіх. Якімі ж справамі і клопатамі запоўнены іх будні, чым заняты яны ў той час, калі не выходзяць на сцэну, не з'яўляюцца перад тэлевізійнымі камерамі або на дэпутацкай трыбуне, за сталом перагавораў. Мы б хацелі дапамагчы нашым чытачам даведацца пра гэта. І вось наш першы субяседнік: вядомы журналіст, член камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па правах ахвяр палітычных рэпрэсій Аляксандр ЛУКАШУК.**

**Аляксандр Лукашук — асоба папулярная ў журналісцка-літаратурным асяроддзі. Добра вядомы ён і чытачам адной з самых масавых беларускіх газет — «Звязды», на старонках якой працяглы час друкаваў свае артыкулы. Водгукі пра Аляксандра можна пачуць самыя супрацьлеглыя. Адны лічаць яго таленавітым чалавекам, скіраваным на пастаянны пошук справядлівасці, іншыя выклікаюць на судовыя разбіральніцтвы і як толькі ні лаюць, і ўсё з-за даволі цеснага супрацоўніцтва журналіста з БНФ. Цяпер жа яшчэ адна падстава з'явілася: апошні час А. Лукашук працуе ў беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхене.**

— *Аляксандр, прыемна вас бачыць. Які клопат прывёў у Мінск?*

— Праца і толькі праца. Прыехаў у Мінск на два месяцы. Галоўная мэта — падрыхтаваць шэраг журналісцкіх матэрыялаў з Беларусі.

Па-другое, дагэтуль «Свабода» мела ў рэспубліцы толькі пазаштатных аўтараў. Цяпер радыёстанцыя акрэдытавана пры беларускім Міністэрстве замежных спраў. Ёсць згода на яе работу і іншых афіцыйных улад. Таму радыё «Свабода» збіраецца адкрыць у Мінску стацыянарны карэспандэнцкі пункт. Займаюся таксама і гэтым.

І, безумоўна, не забываю пра мой пастаянны клопат — работу ў архівах, з гістарычнымі матэрыяламі, што звязана ў першую чаргу з працэсам рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій.

— *Тады хацелася б даведацца, калі ж нарэшце ў сумнавядомых Курапатах будзе стаяць помнік расстраляным людзям?*

— Як на маю думку, то помнік ёсць. Гэта самі Курапаты. Што тычыцца нейкага мемарыяла, то ўжо тры гады ідзе конкурс на лепшы праект. А плёну ўсё няма. Хаця нядрэнныя ідэі былі. Напрыклад, пабудаваць капліцу, магчыма, нават міжканфесіянальную. У рэшце рэшт што-небудзь атрымаецца. Але справа гэта няхуткая. Прыгадайце, у Расіі наконт Паклоннай гары таксама пакуль да адзінага рашэння, здаецца, не прыйшлі.

Я лічу, што Курапаты — помнік-могілкі. І ў тым іх унікальнасць. А на могілках павінны быць толькі агароджа, крыжы ды капліца.

— *Зараз нават агароджы няма.*

— Вось таму і ёсць выпадкі вандалізму, сляды пікнікоў, выгулу сабак. Усё гэта можна аднесці да ілюстрацыі маральнага стану нашага грамадства. Амаль поўная адсутнасць сацыяльна-гістарычнай памяці.

— *Хто ж павінен паклапаціцца пра тую ж агароджу?*

— На ўладу спадзявацца ўжо не даводзіцца. Застаецца толькі на сябе, на неабыякавых людзей. Тым больш, што на парадак дня ўжо пастаўлены Трасцянец, дзе таксама адбываліся і нямецка-фашысцкія, і сталінскія пакаранні. Наогул вакол Мінска вядома восем пакуль не даследаваных месцаў масавых палітычных расстрэлаў.

— *Над чым яшчэ даводзіцца працаваць?*

— Непакоіць і праблема кампенсацый рэабілітаваным. Высвятляецца нямала выпадкаў, калі вяскоўцаў вывозілі ў Сібір, Казахстан, Архангельскую вобласць без афіцыйных папер. Такіх людзей таксама ўключаюць у спісы ахвяр і імкнуцца вярнуць ім хоць што-небудзь са страчанага.

Завяршаю работу і над уласным праектам — гэта даследаванне лёсу Янкі Фелістовіча, расстралянага 5 сакавіка 1953 года. Эмігранты добра яго ведаюць. Невялікія, але перакручаныя звесткі пра Фелістовіча ёсць і на Беларусі — у 1958-м у Мінску выйшла кніга «Па воўчых сцежках». Напісаў яе пад дыктоўку КДБ Макар Паслядовіч і надрукаваў спачатку ў «Звяздзе».

Янка Фелістовіч — стваральнік і кіраўнік Беларускага задзіночання моладзі ў Францыі, потым у Бельгіі, член Рады БНР. У 1952 годзе з дапамогай амерыканскай разведкі закінуты на Беларусь. Правёў тут каля года. Цікава, што ўвесь час ён не хаваў ад знаёмых, што закінуты амерыканцамі, але яго ніхто не выдаў.

— *Цікава, як асабіста вы ставіцеся да Янкі Фелістовіча?*

— Адназначна ацаніць яго немагчыма. Але, нягледзячы на ўсе хібы лёсу, гэта гісторыя чалавека, бясконца ўлюбёнага ў Беларусь. Янка Фелістовіч — фанат абавязку перад радзімай, як ён яго разумеў. Дарэчы, Вінцук Вячорка сказаў пра яго так: «Чалавек, які выратаваў гонар БНР». Я знайшоў следчага КДБ, які вёў допыты. Ён вельмі высока ацаніў гэту асобу і шкадаваў, што не ўдалося ўратаваць Фелістовіча ад расстрэлу.

Трэба адзначыць, што маё даследаванне было б немагчымым без дапамогі Міхася Наумовіча і беларускай грамады ў Вялікабрытаніі, дзе сябры Янкі Фелістовіча захоўваюць яго пісьмы. Увогуле эміграцыя далёкага замежжа вельмі ашчадна ставіцца да беларускай мінуўшчыны. У пэўным сэнсе — гэта сэнс жыцця. Іншага ў іх проста няма. Варта прыгадаць хаця б ахвярную працу па збіранню і даследаванню беларускай гісторыі айца Аляксандра Надсона ў Лондане, Паўлюка Урбана ў Мюнхене, Янкі Запрудніка і Вітаўта Кіпеля ў Амерыцы, многіх іншых. На эміграцыі захавалася сапраўднае дакументальнае багацце. На жаль, усе гэтыя матэрыялы, здаецца, там і застануцца: парадаксальна, але тут, на радзіме, яны проста не патрэбны. Калі ж дакументы і трапілі б сюды, то вельмі хутка маглі б загінуць, бо ў нас з імі можа здарыцца, што хочаш. Яны могуць згарэць, быць залітымі вадой або проста валяцца дзе-небудзь закінутымі. Такое было не раз.

— *У Мюнхене ўвесь ваш час заняты журналісцкімі справамі? Ці даводзіцца займацца гісторыяй?*

— У мяне шмат назапашанага архіўнага матэрыялу. Апрацоўваць яго можна і там. Толькі б часу хапіла. Нядаўна скончыў работу над кнігай дакументальных даследаванняў пра супрацоўнікаў НКУС.

— *Плануеце выдаць яе ў Беларусі?*

— Хацелася б. Але пакуль паразуменне з выдаўцамі не атрымалася, шкада. Я ўпэўнены, што без падвядзення рахункаў з мінулым, без справядлівасці як да ахвяр, так і да катаў, не будзе шчасця нам, іх дзецям і ўнукам. Шукаць і знаходзіць праўду ў мінулым — значыць думаць пра будучыню. Праўда — яна па-за часам...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# МІЛЫ ТАВАРЫШ МАКСІМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

«Родны край» складаецца з трох кніг, якія прызначаліся для 1—4 гадоў навучання і змяшчалі ў сабе багаты і разнастайны матэрыял, разлічаны на дзіцячае ўспрыманне, пашырэнне кругагляду, стымуляванне добрых духоўных памкненняў. Разумеючы вялікую ролю мастацкага слова ў выхаванні чалавека, Л. Чарняўская імкнулася падабраць у чытанцы творы, якія змаглі б абудзіць у юнага чытача пачуццё прыгожага, жаданне быць чулымі і ўважлівымі, сумленнымі і міласэрнымі, любіць блізкіх, сваю Радзіму, матчыну мову. Паступова, крок за крокам «Родны край» вядзе маленькіх падарожнікаў ад бацькоўскага парога ў свет новага, нязведанага. З дапамогай мастацкіх твораў перад дзецьмі адчыняюцца бязмежныя прасторы поўначы і загадкавыя паўднёвыя джунглі, чытачы нібы пакараюць высокія горы, узнімаюцца да зор... Недакучліва, без павучанняў маленькія чалавечкі праз высакародныя патрыятычныя пачуцці любові да роднага краю вучацца з пашанай ставіцца да іншых народаў, іх звычаяў і традыцый.

Шырока прадстаўлена ў чытанцы гістарычнае мінулае Беларусі. У кнізе для трэцяга і чацвёртага класаў падаюцца, напрыклад, такія тэксты: «Аповесць аб паходзе Ігаравым...», «Князь Усяслаў», «Хрысціянства», «Ліцвіны», «Пачатак беларускага друку», «Літоўскі Статут», «Бітва пад Воршай», «Татарскі пастой», «Абарона Крычава», «Люблінская унія», «Уцёкі Сярэбранага», «Бітва на Уле» і інш.

Раздзел «Жыццё слаўных беларусаў» быў уведзены Леанілай Усцінаўнай пры перавыданні чытанкі для другога класа ў 1923 годзе. Яго напісаў па просьбе складальніцы А. Навіна (А. Луцкевіч). У раздзел увайшлі нарысы «Прадслава», «Францішак Скарына», «Паўлюк Багрым», «Францішак Багушэвіч», «Іван Луцкевіч», «Цётка».

У чытанцы «Родны край» змешчана шмат твораў рускіх, польскіх, англійскіх, яўрэйскіх, французскіх, украінскіх аўтараў. Пераклады многіх з іх зроблены самой Л. Чарняўскай, але гэта па яе сціпласці ў кнізе не пазначана. Галіна Максімаўна Гарэцкая, дачка пісьменніцы, ва ўспамінах адзначае, што пераклала Леаніла Усцінаўна «для «Роднага краю» (3—4 гады навучання) урыўкі з некаторых твораў Гаршына, Серафімовіча, Чэхава, Маміна-Сібірака, Тургенева, Караленкі, а з польскай мовы — «Рэха» Э. Ажэшка, з французскай — «Астатнюю лекцыю» А. Дадэ". Працытаваныя ўспаміны сведчаць, што і многія іншыя творы, уключаныя ў кнігу без указання аўтарства, таксама могуць належаць пяру складальніцы. Аднак усё гэта патрабуе асобнага грунтоўнага вывучэння. Адзіным творам у чытанцы, які падпісаны Л. Чарняўскай, з'яўляецца яе апавяданне «Мікітка».

Падрыхтаваная пісьменніцай чытанка «Родны край» сведчыць пра яе як пра высокакваліфікаванага педагога, нацыянальна свядомага, чалавека шырокага светапогляду, багатай духоўнай культуры.

Восенню 1923 года сям'я Гарэцкіх пераехала з Вільні ў сталіцу Савецкай Беларусі. Змена жыхарства была выклікана арыштам польскімі ўладамі ў 1922 годзе мужа пісьменніцы, якога абвінавачвалі ў належнасці да партыі бальшавікоў і рэвалюцыйнай дзейнасці. Будучы цяжарнай сынам, з гадавалай дачушкай на руках, Л. Чарняўская перажыла цяжкія дні знаходжання М. Гарэцкага ў засценках Лукішскай турмы, яго выгнанне за межы Вільні.

Мінск стаў для Гарэцкіх часовым выратаваннем, сустрэў даволі прыветна. Нацыянальна-культурнае ажыўленне, якое назіралася ў пачатку 20-х гадоў, спрыяла на першым часе ажыццяўленню многіх творчых задум маладых пісьменнікаў. Л. Чарняўская нейкі час працавала перакладчыцай у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, затым стала супрацоўніцай «Іскры Ільіча», працягвала працаваць над чытанкай «Родны край», пісала новыя творы, гадавала дзяцей. З кожным днём пашыраўся круг знаёмых, сяброў. Сям'ю Гарэцкіх наведвалі З. Бядуля, А. Якімовіч, У. Дубоўка... Асабліва цёплыя адносіны склаліся з сем'ямі Я. Купалы і Я. Коласа. Канстанцін Міхайлавіч, убачыўшы першы раз Леанілу Усцінаўну, разгубіўся. Вельмі ж нагадала яна яму яго Ядвісю: была «стройнаю, чарнявою», з «прыгожа абрысаванымі брывамі», а ў вачах яе, як і ў гераіні аповесці «У палескай глушы», «адбівалася нейкае засмучэнне і тая сталасць, што рабіла ўражанне, быццам дзяўчына многа перадумала і перажыла».

Ішоў час... Падрасталі дзеці, болей станавілася вольнага часу для творчай працы і адпачынку. Леаніла Усцінаўна вельмі любіла спяваць, мела прыгожы лірычны голас, ведала многа народных песень. Спявала яна пры кожным зручным моманце. Вялікую асалоду ёй давала вышыванне. Галіна Максімаўна ва ўспамінах піша: «Мама надзвычайна добра вышывала. Умела стварыць на палатне кветкі ці што іншае з найпрыгажэйшымі, тонкімі адценнямі. Хадзілі ў вышытым ёю адзенні дарослыя і дзеці, яе вышыўкі ўпрыгожвалі кватэру. І кветкі дужа любіла, знала, як вырошчваць іх. Не толькі каля дома, а і ў кожным пакоі нашым былі на вокнах кветкі. Некаторыя



**Леаніла ЧАРНЯЎСКАЯ-ГАРЭЦКАЯ з дзецьмі Галінай (злева) і Леанідам. 1925 г.**

«засыналі» на ноч, складвалі лісточкі. Мы з Лёнем усё цікавалі гэты міг".

Амаль дзевяць гадоў, пражытых у Савецкай Беларусі, былі плённымі ў творчай дзейнасці Л. Чарняўскай. За гэты час ёю напісаны шэраг апавяданняў для дарослых і дзяцей, перакладзена некалькі кніг — напрыклад, «Бунт Моці-Гёджа» Д. Кіплінга, «Гісторыя аднаго мядзведзя» Сетана-Томпсана з рускага тэксту. Вялікую дапамогу Л. Чарняўская аказвала мужу «як у тэхнічнай часці (перапісчыка, падчытчыка і да т.п.), так і ў стыльрэдакцыі». Творы пісьменніцы друкаваліся на старонках «Маладняка», «Савецкай Беларусі», «Чырвонага сейбіта», «Беларускага піянера» і іншых перыядычных выданняў. Некаторыя з іх выйшлі асобнымі кнігамі: «Кот Знайдзён» (1929), «Андрэйка», «Валуй», «Бяздзетуха», «Падарожніца» (усе — 1930), «Перамога» (1932). Былі таксама выдадзены невялікія зборнікі: «Апавяданні» (1930), «Лявонка» (1932). У іх выразна адчуваецца здольнасць мастачкі ўмела выкарыстаць слова, данесці да чытача глыбокія чалавечыя пачуцці, стварыць яскравыя вобразы людзей рознага ўзросту, перадаць адпаведны каларыт часу. У сваіх апавяданнях пісьменніца ўзнімала праблемы нялёгкага сялянскага жыцця пры паншчыне, праблемы жаночай долі, сіроцтва. Многія тэмы ў творчасці Л. Чарняўскай народжаны сацыялістычнай рэчаіснасцю. Яна, як і большасць тагачасных прадстаўнікоў інтэлігенцыі, шчыра радавалася шматабяцаючым парасткам новага ладу. У тэхнічным забеспячэнні народнай гаспадаркі ("Першы трактар", «Самалёт», «Працоўныя мазалі»), у адкрыцці дзіцячых садзікаў ("Нянька"), калектыўнай працы ("Лыжка мёду"), у выхаванні падрастаючага пакалення, яго высокай духоўнасці Л. Чарняўская бачыла вырашэнне многіх надзённых праблем, шлях да росквіту роднага краю. Яна спадзявалася, што бруд, «смецце», якія засталіся пасля «веснаходу», будуць вымецены. А кар'ерысты, прыстасаванцы, што пры любой уладзе ўмеюць «знайсці жывыя словы да сэрца народа», «будуць сядзець ціха, як мыш у шчыліне» ("Валуй").

Большасць твораў Л. Чарняўскай напісана для дзяцей і пра дзяцей. Аднак многія праблемы, узнятыя ў іх, разлічаны і на дарослых, тых, хто нясе адказнасць за лёс маладой змены.

З ростам творчага майстэрства павялічвалася і патрабавальнасць да сябе. Л. Чарняўская выношвала думку выйсці за межы апавядання, паспрабаваць сілы ў большай жанравай форме. Падштурхоўваў пісьменніцу да гэтага і літаратурны працэс, які вызначаўся ў той час яўнай тэндэнцыяй да жанравага ўзбуйнення. Аднак задума Леанілы Усцінаўны не здзейснілася. Распачатая ёю ў канцы 20-х гадоў аповесць «Кутніца» засталася незавершанай. Прычынай таму з'явіліся падзеі, якія моцна паранілі пісьменніцы крылы на самым творчым узлёце. Гвалтоўна быў парушаны натуральны працэс яе развіцця як чалавека і творцы.

У канцы 20-х гадоў над сям'ёй Гарэцкіх сталі згушчацца цёмныя хмары. Бяда прыйшла ў 1930-м. Сталінскія карнікі па сфабрыкаваным даносе амаль адначасова арыштавалі М. Гарэцкага і яго брата Гаўрылу Іванавіча. Кожная наступная хвіліна была непрадказальнай... Малох сталінізму няўмольна патрабаваў ахвяр.

Затым былі доўгія чэргі да турэмнага акенца, дзе бралі перадачы для зняволеных, высылка мужа, пярэбары да яго з дзецьмі ў далёкую Вятку, кароткія гады «вольнага» жыцця ў Пясочні, што на нейкі час абудзілі надзею вярнуцца да нармальнага чалавечага жыцця... Аднак лёс распарадзіўся інакш. У ноч на 4 лістапада 1937 года муж Л. Чарняўскай быў зноў арыштаваны. Як цень, яна ішла ўслед за блізкім і дарагім чалавекам: насіла перадачы, шукала магчымасць сустрэцца, падтрымаць. Калі пачаліся вывазы, кожны дзень разам з іншымі жанчынамі пільнавала яна ля будынка міліцыі, ці не выведуць і яго. І дапільнавалася. 21 снежня Л. Чарняўская змагла на станцыі пагаварыць і назаўсёды развітацца з Максімам Гарэцкім. «Падышоў цягнік на Вязьму. Развіталіся. Ён цалаваў мае рукі, прасіў прабачэння за нервовы характар. Клапаціўся, што будзе з намі, як будзем жыць далей. Я з выгляду была спакойная. Пацяшала, што абойдзецца добра, павінна так быць. Кароткі зімовы дзень канчаўся. Этап пастроілі і павялі па вагонах».

Услед за мужам ездзіла Л. Чарняўская ў Вязьму. У пачатку студзеня 1938 года яна дабілася дазволу на перадачу. У адказ прыйшла кароценькая запіска: «Спасибо за передачу. Получил всё. Отсылаю обратно корзинку и 2 рубашки. Заботьтесь о себе. Максим».

Не ведала тады Л. Чарняўская, што тры дні назад М. Гарэцкі быў прыгавораны да расстрэлу, які адбудзецца 10 лютага. Яшчэ амаль два гады яна шукала хоць якіх-небудзь звестак пра мужа, пісала ў розныя інстанцыі, аднак — безвынікова. І толькі 1 лістапада 1939 года ёй далі фіктыўны адказ, што М. Гарэцкі памёр 20 сакавіка 1939 года ў пасёлку Важаэль Комі АССР. Аднак і пасля такой трагічнай весткі спакутаваную душу Л. Чарняўскай не пакідалі сумненні. Напісаўшы ліст у бальніцу г. Важаэль, каб даведацца, ад чаго памёр яе муж, яна, відаць, не пераставала яшчэ спадзявацца...

Л. Чарняўская была сапраўдным сябрам, надзейнай спадарожніцай М. Гарэцкага. Іх яднаді не толькі сямейныя адносіны, агульнасць інтарэсаў, адэкватнасць поглядаў, але і нешта большае. Тое, што дазваляе зразумець высокую сутнасць чалавека, дае сілы не здрадзіць прынцыпам хрысціянскай маралі, асабістым перакананням. Л. Чарняўская нібы ўвасабляе сабой беларускіх «дзекабрыстак», якія, стаўшы ахвярамі таталітарнай сістэмы, засталіся верныя свайму сумленню, высокаму прызначэнню быць Жанчынай. «Ніколі, ні разу не пашкадавала, што выйшла замуж за Максіма, — сказала Леаніла Усцінаўна сваёй дачцэ, — хоць і нялёгкім аказаўся мой лёс».

Многія творы М. Гарэцкага ўбачылі свет з прысвячэннем Леаніле Усцінаўне. Яна з'яўляецца прататыпам Мілы (Ласкі) ў «Камароўскай хроніцы». Пра яе напісана апавяданне «Як удава». Як вышэйшы крытэрый адносін да жонкі, спасціжэнне яе як чалавека, жанчынымаці можна ацаніць словы, сказаныя М. Гарэцкім сваёй дачцэ незадоўга да яго апошняга арышту: «Стаяў, глядзеў засяроджана на вуліцу і мяне падазваў. Па другой старане вуліцы ішла мама. »Запомні, — сказаў, — яна святая!" — і паўтарыў: «Святая!»

Да 1947 года Л. Чарняўская жыла ў Вятцы, працавала ў дзіцячым садзе, за што мела ўзнагароды: Ганаровую грамату выдатніка дашкольнага выхавання (1943 год), медаль «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» Разам з вайной да Л. Чарняўскай прыйшло чарговае гора, бязлітасны лёс не пакідаў жанчыну. 18 лютага 1944 года ля сяла Мядзведзь на Наўгародчыне быў забіты на фронце сын Лёня. Парвалася яшчэ адна жыццёвая нітачка, што няўлоўна звязвала яе з мужам, з'яўлялася іх агульным працягам. Лісты ад сына былі для яе вялікай радасцю. У іх яна знаходзіла не толькі тое, што было дорага ёй як маці, але і тое, што выяўляла сугучнасць іх думак, жаданняў.

Дзе толькі брала сілы гэта мужная і сапраўды святая жанчына?! Магчыма, у рукапісных і друкаваных творах мужа, лістах сына, сямейных рэліквіях, якія беражліва захоўвала ўсё жыццё... Магчыма... Але разам з тым ёй прыдавала моцы вера — вера ў справядлівасць, жаданне дажыць да тых дзён, калі будзе рэабілітаваны дарагі ёй чалавек і тысячы бязвінных ахвяр сталінізму, калі Беларусь стане сапраўды незалежнай. І гэты дзень настаў.

Нялёгкім было жыццё Л. Чарняўскай, аднак прыроджаны талент пісьменніцы не дазваляў ёй пакідаць творчую працу. Яна знаходзіла зручны момант і бралася за пяро, што давала магчымасць на нейкі момант забыцца на сваё рэальнае становішча, адчуць сябе ранейшай. За гады жыцця ў Вятцы, а з 1947 года ў Ленінградзе Л. Чарняўскай напісана некалькі апавяданняў. Сярод іх хацелася б адзначыць «Мой мілы, таварыш...» (1959), якое вызначаецца своеасаблівым сюжэтам, уменнем перадаць прыгажосць чалавечых адносін паміж дарослымі і дзецьмі, паказаць трагедыю народа, што прынесла з сабой вайна.

Восем апошніх гадоў Л. Чарняўская моцна хварэла, была прыкавана да пасцелі. Дзякуючы чуламу і клапатліваму догляду дачкі, яна працягвала займацца творчасцю: пісала ўспаміны пра блізкіх і знаёмых ёй людзей. Паспела нямногае. Занатавала «Успаміны пра сына», «Памятку», пра апошнія гады жыцця М. Гарэцкага, «Як складалася кніжка народных песень» — пра запіс песень ад маці М. Гарэцкім, невялікія нататкі пра сустрэчы з Якубам Коласам. Пакінутыя Л. Чарняўскай успаміны з'яўляюцца каштоўным гісторыка-літаратурным дакументам, паказчыкам творчых здольнасцей пісьменніцы, якія, на вялікі жаль, засталіся ў многім нерэалізаванымі. Памерла Л. Чарняўская 26 верасня 1976 года ў Ленінградзе. Пахавана на Паўднёвых могілках.

Жыццё і творчасць пісьменніцы — адзін з яркіх прыкладаў маральных ахвяр таталітарнай сістэмы. Нягледзячы на суровыя выпрабаванні, яна здолела захаваць і пранесці праз усё жыццё нязменнасць патрыятычных пачуццяў, веліч духу, вернасць гуманістычным прынцыпам.

Творчая спадчына Л. Чарняўскай — гэта своеасаблівы мастацкі летапіс, які адлюстроўвае жыццё беларускага народа ў эпоху складаных сацыяльных пераўтварэнняў. Найбольш выразныя ў мастацкіх адносінах творы пісьменніцы з'яўляюцца прыкметным здабыткам нацыянальнай літаратуры, асабліва дзіцячай.

Тэрэза ГОЛУБ.



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)

### AVE MARIA

1678 год для жыхароў мястэчка быў адзначаны адной досыць важнай падзеяй: ад караля Яна III Сабескага Смаляны атрымалі прывілей на магдэбургскае права. Да гэтага часу ў асноўных рысах ужо склалася планіровачная структура паселішча. Некалькі вуліц бралі пачатак ад гандлёвай плошчы, на якой цяпер была ўзведзена ратуша, і разыходзіліся ў розных накірунках. Паводле аднаго з інвентароў XVIII стагоддзя, ратуша на плошчы была зроблена з сасновых брусоў, мела над гонтавым дахам купал, абабіты бляхаю, над якім узвышаўся флюгер, што быў упрыгожаны «Пагоняй». Побач з ратушай знаходзілася двухпавярховая важніца і крамы.

Адна з вуліц злучала гандлёвую плошчу з «Белым Коўлем», таму, натуральна, звалася Замкавай. Пры ёй у 1680 годзе князь Геранім Сангушка, унук славутага Сямёна-Самуіла, разам са сваёй жонкай Канстанцыяй-Тэадорай з роду Сапегаў заснавалі дамініканскі кляштар. Трэба адзначыць, што парафіяльны касцёл у Смалянах згадваецца ў «Спісе касцёлаў на сінодзе Сапегі» ўжо ў 1669 годзе, аднак ксяндзы-дамініканцы былі запрошаны ў яго на 11 гадоў пазней. Верагодней за ўсё, фундуш на дамініканскі кляштар быў нададзены з прычыны шчаслівага нараджэння ў князя Гераніма і Канстанцыі Сапежанкі сына Паўла-Караля. «Будзь прывітаная, Марыя!» — са словамі гэтай малітвы, трэба думаць, удзячныя бацькі неаднойчы звярталіся да нябеснай заступніцы. Новы касцёл быў асвячоны ў імя Благавешчання Прасвятой Багародзіцы і Св. Гераніма. Ксяндзы-дамініканцы згодна з фундацыйным запісам атрымалі пляц зямлі ў Смалянах «па левай руцэ, ідучы ад замка ў рынак, паміж вуліцамі, здаўна названымі Замкавай і Гайдуцкай», а таксама тры навакольныя вёскі: Спаскае, Літоўскі Канец ды Стукава. Пры кляштары павінна было жыць 6 манахаў, якія мелі права карыстацца гаспадарскім млынам, вольна выбіраць дрэвы ў Яноўскай пушчы для кляштарных пабудоў, а таксама наладжваць гандаль і нават трымаць шынкі ў сваіх вёсках.

Геранім Сангушка памёр у 1684 годзе ў Ракаве, аднак быў пахаваны ў Смалянах, што з'яўляецца сведчаннем яго вялікае ласкі да радзіннага ўладання. На жаль, гэтыя яго пачуцці не перадаліся сыну Паўлу, з імем якога звязаны пачатак заняпаду Смалян.

### АД ЛЯВАРТАВА ДА ЛЮБАРТАВА

Князь Павел-Караль Сангушка здолеў дасягнуць, як ніхто іншы ў родзе, самых высокіх вяршынь службовай іерархіі ды, як пра яго пісалі, «вынесціся з хатняга зацішша на палітычны гарызонт Рэчы Паспалітай». Князь Павел-Караль дамогся атрымання міністэрскай пасады — стаў маршалкам вялікім літоўскім. Узяўшы ў 1705 годзе другі шлюб з Марыяй з Любамірскіх, ён атрымаў у якасці пасагу за жонкаю горад Лявартаў, які знаходзіўся паблізу Любліна. Новыя мясціны так спадабаліся князю, што ён вырашыў зрабіць іх галоўным месцам пражывання сваёй радзіны. Князь Павел прыняў на службу да свайго двара архітэктара Паўла Антонія Фантану, які адразу ж уключыўся ў перабудову старажытнага палаца ў Лявартаве. Не ашчаджаючы сродкаў, князь узвёў у саманабытым месце шмат новых камяніц, а ў 1733 годзе — мураваны касцёл. На ўпрыгажэнне радзінных Смалян князь Павел Сангушка выдаткоўваў грошы толькі два разы: у 1729 годзе пабудаваў для дамініканцаў драўляны касцёл, а ў 1734-м — драўляны кляштар. Абедзве гэтыя даты былі для князя трагічнымі, бо ў 1729 годзе памерла яго жонка Марыя-Ганна Любамірская, а пазней — сын Аляксандр. Са згаданых фактаў вынікае, што смалянскія фундацыі былі зроблены адно на памін душ супачылых сямейнікаў.

Адсудзіўшы ў Любамірскіх (крэўных жонкі) лявартаўскія набыткі, князь Павел з імпэтам працягваў займацца іх добраўпарадкаваннем. З даўніх часоў князі Сангушкі называлі сябе Любартавічамі, бо выводзілі свой радавод ад Любарта, сына Гедыміна. У 1744 годзе, саступіўшы просьбам князя Паўла, кароль Аўгуст III спецыяльным прывілеем дазволіў перайменаваць Лявартаў на Любартаў, а таксама аднавіў для горада магдэбургскае права. Свой новы назоў места носіць да нашага часу.

Князь Павел не пажадаў вярнуцца ў Смаляны нават і пасля скону. Пахаваны ён быў у 1750 годзе ў Любліне ў касцёле капуцынаў.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: Спаса-Праабражэнская царква. Сучасны выгляд.**





**Соф'я ПЛЯСУН (на здымку) з вёскі Слабодка — адна са старэйшых ткачых на Браслаўшчыне. Яе работы ўражваюць разнастайнасцю ўзораў, дзівосным спалучэннем фарбаў. Нібыта шматколернасць лугоў і садоў азёрнага краю перанеслася на вырабы Соф'і Іванаўны. Выклікае вялікую павагу працавітасць гэтай майстрыхі. Колькі вечароў, часта пасля цяжкага працоўнага дня, правяла яна за кроснамі, каб выткаць гэтую прыгажосць!**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## ПРАЕКТАВАНАЯ СТАЛІЦА БССР

Вядомы факт, што ў другой палове 30-х гадоў урад БССР рыхтаваў перанос сталіцы рэспублікі на ўсход ад польскай мяжы — з Менску ў Магілёў, які не ажыццявіўся з прычыны падзей 1939 года. Аднак выяўлены ў Дзяржаўным архіве Гомельскай вобласці дакумент сведчыць пра існаванне падобнага праекта ўжо ў 1922 годзе, калі Магілёў быў усяго павятовым цэнтрам Гомельскай губерні РСФСР.

Больш таго, дакумент паказвае, што напярэдадні ўз'яднання Магілёўшчыны з БССР у 1924 годзе органы рэспублікі праводзілі прадуманую нацыянальна-дзяржаўную палітыку ў адносінах да этнічных беларускіх земляў, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй РСФСР. Гэтак, стараннямі Паўнамоцнага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе РСФСР (Беларускае пасольства) Магілёўскі педагагічны інстытут народнай адукацыі ў 1922 годзе ўдалося захаваць, а фактычна выратаваць ад рэарганізацыі ў тэхнікум.

Урывак з дакумента — пратакола пасяджэння Савета МПІНА ад 25 красавіка — прапануецца чытачам у перакладзе з расейскай.

**Ю. ВАСІЛЕЎСКІ.**

«Дэлегаты М.І. Арлоў і Т.М. Міхайлаў па прыездзе ў Маскву накіраваліся ў беларускае пасольстве, дзе знайшлі дужа ветлівы прыём і ўважлівае стаўленне да справы.

Пасольства з прычыны блізкасці Менска да польскай мяжы мае намер горад Магілёў зрабіць цэнтральным горадам Беларускай рэспублікі. Прадстаўнік пасольства тав. Мароз усяляк спрыяў дэлегацыі, гэткае спрыянне дэлегаты мелі і ад старшыні секцыі нацыянальных меншасцяў тав. Станкевіча. Пры іхнім спрыянні інстытут у Магілёве адноўлены...

Беларускае пасольства і секцыя нацыянальных меншасцяў выказалі жаданне аб увядзенні ў вучэбныя планы мовы Беларус., гіст. беларус. і гіст. белар. літаратуры".

«100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

## ЦІ БЫЛА НА БЕЛАРУСІ МАНГОЛА-ТАТАРСКАЯ НЯВОЛЯ?

Пасля ўтварэння на пачатку XIII стагоддзя Мангольскай дзяржавы ў выніку захопніцкай палітыкі Чынгісхана і ягоных нашчадкаў былі паняволеныя народы Сібіры, Паўночнага Кітая, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Малой Азіі, Блізкага Усходу. У 1236—1243 гадах былі заваяваныя велізарныя абшары Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку рускія і ўкраінскія княствы, спустошаныя землі Малой Польшчы, Венгрыі, Маравіі, Славакіі, Чэхіі, Букавіны, Малдовы, Румыніі... Мангольскія ханы стварылі адну з найвялікшых імперыяў свету, яны арганізоўвалі ваенныя экспедыцыі ў Егіпет, Паўднёва-Усходнюю Азію, Японію, на востраў Яву...

Беларусь не была паняволеная мангола-татарамі. Захаваліся паданні пра пераможныя бітвы нашых продкаў з імі пад Койданавам у 1249 годзе, каля Магільны, пад Акунёўкаю, але гэта хутчэй за ўсё легендарныя звесткі, якія трапілі на старонкі летапісаў значна пазней, у XVI стагоддзі. Беларусы змагаліся з татара-мангольскімі набегамі ў 1259, 1275, 1277 гадах. Аднак гэта былі менавіта наезды, уварванні. Беларусь ніколі не падпарадкоўвалася Залатой Ардзе, ніколі не ведала азіяцкай няволі. Тэрміны «мангола-татарскае нашэсце», «мангола-татарскае іга», «дамангольскі перыяд» і г.д. у дачыненні да беларускай гісторыі надуманыя. Тут у адрозненне, скажам, ад рускіх земляў, якія 240 гадоў уваходзілі ў склад Залатой Арды, натуральны працэс гістарычнага развіцця не парушаўся, дзякуючы чаму, напрыклад, яшчэ стагоддзямі жыло веча — інстытут сярэднявечнай дэмакратыі, тым часам як у Маскоўскай дзяржаве ўсталявалася азіяцкая дэспатыя.

У беларускай гісторыі ёсць слаўная старонка, якая да апошняга часу замоўчвалася. Задоўга да хрэстаматыйна вядомай Кулікоўскай бітвы, яшчэ ў 1362 годзе, войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Альгерда разбіла каля Сініх Водаў войскі трох татарскіх ханаў. У выніку ўкраінскія землі былі вызваленыя ад мангола-татарскай няволі.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1697. Падпісана да друку 30. 11.1993 г.